Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь
ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя ЯНКІ КУПАЛЫ

# КАРОТКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

## ФІЛАСОФСКІХ, САЦЫЯЛЬНЫХ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

Гродна 1992



Рэдакцыйная калегія: дацэнты Бяспамятных М. Н., Змітровіч І. А. (адк. рэдактар), Тамашэвіч Т. І.

Складальнікі: дацэнт Бяспамятных М. Н., дацэнт Бародзіч А. А., дацэнт Гусакоўская Л. А., дацэнт Змітровіч І. А., дацэнт Марціросаў Г. А., ст. выкл. Пісараў В. К., дацэнт Піульскі Я. У., ст. выкл. Смаль Д. Я.

Рэцэнзенты: кафедра сацыяльных навук Гродзенскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў;
Койта К. К., кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Гродзенскага медыцынскага інстытута.

У слоўніку змешчаны асноўныя тэрміны сацыяльных і культуралагічных дысцыплін на беларускай і рускай мовах і тлумачэнне іх зместу па-беларуску. Змест паняццяў і катэгорый раскрываецца ў кароткіх вазначэннях, дастатковых для іх разумення і ўжывання пры вывучэнні адпаведных дысцыплін. Разглядаецца звыш 500 базавых тэрмінаў філасофіі, паліталогіі, логікі, эканомікі і тэорыі кіравання, тэорыі і гісторыі сусветнай культуры, этыкі, эстэтыкі, рэлігіязнаўства.

Выданне разлічана на выкладчыкаў і студэнтаў, якія пачынаюць вывучаць сацыяльныя і культуралагічныя навукі на беларускай мове.

Абмеркавана і зацверджана на пасяджэннях кафедр філасофіі (пратакол № 7 ад 30 красавіка 1992 г.), сусветнай культуры (пратакол № 7 ад 8 красавіка 1992 г.), эканомікі і кіравання (пратакол № 6 ад 17 красавіка 1992 г.).

## ПРАДМОВА

У «Кароткім тлумачальным слоўніку філасофскіх, сацыяльных і культуралагічных тэрмінаў» з усёй разнастайнасці грамадазнаўчай лексікі выдзяляюцца на беларускай і рускай мовах базавыя паняцці тых сацыяльна-гуманітарных дысцыплін, якія вывучаюцца ва універсітэце, а таксама даюцца тлумачэнні тэрмінаў. Змест паняццяў раскрываецца ў кароткіх дэфініцыях-азначэннях, на аснове якіх можна сфарміраваць неабходны аб'ём ведаў па адпаведных дысцыплінах. Тэрміны і іх тлумачэнні згрупаваны ў раздзелы.

Раздзелы падрыхтавалі: дацэнты М. Н. Бяспамятных і А. А. Бародзіч (філасофія), дацэнт Г. А. Марціросаў (логіка), дацэнт І. А. Змітровіч (сацыялогія), дацэнт Я. В. Піульскі (паліталогія), ст. выкл. У. К. Пісараў (асновы эканамічнай тэорыі), канд. філас. навук Л. А. Гусакоўская (тэорыя і гісторыя сусветнай культуры, эстэтыка), ст. выкл. Д. Я. Смаль (этыка, эстэтыка), дацэнт М. Н. Бяспамятных (уводзіны ў рэлігіязнаўства).

Вялікую арганізацыйна-тэхнічную работу правялі супрацоўнікі вучэбна-метадычнай лабараторыі кафедр філасофіі, эканомікі і кіравання С. І. Вярбіцкая і С. А. Калюта.

Выданне слоўніка здзяйсняецца ў рамках доўгатэрміновай праграмы беларусізацыі вучэбнага працэсу ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я. Купалы.

# I. ФІЛАСОФІЯ

АБ'ЕКТЫЎНЫ ІДЭАЛІЗМ (рус. ОБЪЕКТИВНЫЙ ИДЕАЛИЗМ) — напрамак філасофіі, паводле якога ў свеце існуе самастойная духоўная субстанцыя, адзінкавым і няпоўным праяўленнем чаго выступае свядомасць асобнага чалавека.

АБ'ЕКТЫЎНЫЯ ЎМОВЫ (рус. ОБЪЕКТИВНЫЕ УСЛОВИЯ) — умовы, якія не залежаць ад людзей і вызначаюць напрамак, рамкі іх дзейнасці.

АБСТРАГАВАННЕ (рус. АБСТРАГИРОВАНИЕ) — метад пазнання аб'екта па яго адной найбольш сэнсава значнай уласцівасці; рад неістотных якасцей у дадзеных абставінах не прымаецца пад увагу — мысленна апускаецца.

АГУЛЬНАЕ (рус. ОБЩЕЕ) — катэгорыя, якая выражае інварыянтныя пастаянна ўзнаўляемыя ў шматлікіх рэчах і з'явах уласцівасці і сувязі.

АДЗІНКАВАЕ (рус. ЕДИНИЧНОЕ) — катэгорыя, якая выяўляе адносную адасобленасць прадметаў, іх самабытнасць і непаўторнасць.

АДКАЗНАСЦЬ (рус. ОТВЕТСТВЕННОСТЬ) — катэгорыя, якая адлюстроўвае асаблівыя сацыяльныя і маральна-прававыя адносіны асобы да грамадства ў плане выканання свайго маральнага абавязку і прававых норм.

АДЛЮСТРАВАННЕ (рус. ОТРАЖЕНИЕ) — здольнасць матэрыяльных цел узнаўляць у сваёй структуры некаторыя асаблівасці іншых узаемадзейнічаючых з імі цел.

АДМАЎЛЕННЕ (рус. ОТРИЦАНИЕ) — неабходны момант развіцця, умова якаснага змянення рэчаў.

АДЧУВАННЕ (рус. ОЩУЩЕНИЕ) — элементарная псіхалагічная з'ява, працэс успрыняцця і выяўлення ўласцівасцей прадметаў існуючага свету ў выніку іх непасрэднага ўздзеяння на органы пачуццяў (аналізатары).

АНАЛОГІЯ (рус. АНАЛОГИЯ) — метад пазнання, паводле якога падобнасць нятоесных аб'ектаў у пэўных адносінах дазваляе зрабіць вывад аб іх падабенстве ў іншых адносінах.

АНТРАПАГЕНЕЗ (рус. АНТРОПОГЕНЕЗ) — працэс узнікнення і развіцця чалавека як грамадскай істоты.

АНТРАПАЛОГІЯ (рус. АНТРОПОЛОГИЯ) — сукупнасць тэорый і поглядаў, прадметам якіх з'яўляецца чалавек як з'ява прыроды, натуральнай гісторыі.



АПТЫМІЗМ (рус. ОПТИМИЗМ) — перакананне, вера ў лепшае будучае, у магчымасць перамогі дабра над злом, справядлівасці над несправядлівасцю.

АСОБА (рус. ЛИЧНОСТЬ) — 1) чалавек як суб'ект грамадскіх адносін і свядомай дзейнасці; 2) устойлівая сістэма сацыяльна-культурных і маральна-валявых рысаў, якія характарызуюць індывіда як члена грамадства або супольнасці.

БАЗІС (рус. БАЗИС) — уласцівая грамадству сукупнасць вытворчых адносін, якія складваюцца ў адпаведнасці з пэўным узроўнем развіцця прадукцыйных сіл.

БІЯСФЕРА (рус. БИОСФЕРА) — зямная абалонка, напоўненая жыццём. Валодае сваеасаблівай геалагічнай, фізіка-хімічнай арганізаванасцю.

БЫЦЦЁ (рус. БЫТИЕ) — філасофская катэгорыя, якая выяўляе ўсеагульную ўласцівасць рэчаў і з'яў існаваць і быць у наяўнасці.

БЯСКОНЦАЕ (рус. БЕСКОНЕЧНОЕ) — філасофская катэгорыя, якая абазначае невычарпальнасць матэрыі і руху.

ВАЛЮНТАРЫЗМ (рус. ВОЛЮНТАРИЗМ) — напрамак ідэалістычнай філасофіі, які прызнае волю за першаасновў усяго існага.

ВЫПАДКОВАСЦЬ (рус. СЛУЧАЙНОСТЬ) — тып сувязі, які абумоўлены неістотнымі, выпадковымі для дадзенай з'явы прычынамі; тое, што не выцякае заканамерна, з неабходнасцю з унутранага развіцця з'яў.

ГЕАГРАФІЧНАЕ АСЯРОДДЗЕ (рус. ГЕОГРАФИЧЕСКАЯ СРЕДА) — частка прыроды, з якой чалавек знаходзіцца ў непасрэдным кантакце.

ГНАСЕАЛОГІЯ (рус. ГНОСЕОЛОГИЯ) — раздзел філасофіі, які вывучае ўзаемаадносіны суб'екта і аб'екта ў працэсе пазнавальнай дзейнасці, адносіны ведаў к сапраўднасці, магчымасці пазнання свету чалавекам.

ГРАМАДСКА-ЭКАНАМІЧНАЯ ФАРМАЦЫЯ (рус. ОБЩЕСТВЕННО-ЭКОНОМИЧЕСКАЯ ФОРМАЦИЯ) — гістарычны тып грамадства, заснаваны на пэўным спосабе вытворчасці як ступень прагрэсіўнага развіцця сусветнай гісторыі чалавецтва.

ГРАМАДСКАЕ БЫЦЦЁ І ГРАМАДСКАЯ СВЯДОМАСЦЬ (рус. ОБЩЕСТВЕННОЕ БЫТИЕ И ОБЩЕСТВЕННОЕ СОЗНАНИЕ) — два бакі (матэрыяльны і духоўны) грамадскага жыцця, якія

знаходзяцца паміж сабой ў пэўнай узаемасувязі і ўзаемадзеянні. Г. Б. — матэрыяльныя адносіны людзей да прыроды ў працэсе вытворчасці матэрыяльных даброт і тыя адносіны, у якія людзі уступаюць у працэсе гэтай вытворчасці. Г. С. — адлюстраванне ў духоўным жыцці людзей іх грамадскага быцця.

ГРАМАДСКІЯ АДНОСІНЫ (рус. ОБЩЕСТВЕННЫЕ ОТНОШЕНИЯ) — адносіны, якія складваюцца паміж людзьмі ў працэсе іх сумеснай практычнай і духоўнай дзейнасці.

ГУМАНІЗМ (рус. ГУМАНИЗМ) — прынцып светапогляду, у аснове якога ляжыць пераканaнне ў бязмежнасці чалавечых магчымасцей, патрабаванне свабоды і абароны годнасці асобы, ідэя аб праве чалавека на шчасце.

ДАГМАТЫЗМ (рус. ДОГМАТИЗМ) — спосаб мыслення, які абапіраецца на нязменныя паняцці, формулы без уліку новых даных практыкі і навукі, канкрэтных умоў, месца і часу, г. зн. ігнаруе прынцып канкрэтнасці ісціны.

ДЗЕЙНАСЦЬ (рус. ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ) — актыўнасць чалавека, накіраваная на задавальненне яго сацыяльных патрэбнасцей.

ДУАЛІЗМ (рус. ДУАЛИЗМ) — філасофскае вучэнне, якое лічыць матэрыяльную і духоўную субстанцыі раўнапраўнымі.

ДУХ (рус. ДУХ) — філасофскае паняцце, якое абазначае нематэрыяльны пачатак.

ДУША (рус. ДУША) — філасофскае паняцце, якое адлюстроўвае гістарычна зменлівыя погляды на псіхіку і ўнутраны свет чалавека; у рэлігіі і ідэалістычнай філасофіі і псіхалогіі — паняцце адметнай нематэрыяльнай субстанцыі, незалежнай ад цела.

ДЫЯЛЕКТЫКА (рус. ДИАЛЕКТИКА) — вучэнне аб найбольш агульных заканамернасцях сувязі, станаўлення і развіцця быцця і пазнання; заснаваны на гэтым вучэнні метад мыслення; навука аб найбольш агульных законах развіцця прыроды і грамадства.

ДЭТЭРМІНІЗМ (рус. ДЕТЕРМИНИЗМ) — вучэнне аб ўсеагульнай, заканамернай сувязі, прычыннай абумоўленасці ўсіх з'яў.

ЖЫЦЦЁ (рус. ЖИЗНЬ) — вышэйшая форма руху матэрыі, заснаваная на абмене рэчываў, энергіі і інфармацыі.

З'ЯВА (рус. ЯВЛЕНИЕ) — катэгорыя, якая ўказвае на знешнія, найбольш рухомыя, зменлівыя, часта выпадковыя характарыстыкі рэчаў і працэсаў.



ІДЭАЛІЗМ (рус. ИДЕАЛИЗМ) — філасофскі напрамак, які зыходзіць з першаснасці духоўнага, нематэрыяльнага і другаснасці матэрыяльнага.

ІДЭАЛОГІЯ (рус. ИДЕОЛОГИЯ) — сістэма палітычных, прававых, маральных, рэлігійных, эстэтычных і філасофскіх поглядаў і ідэй, якія адлюстроўваюць і ацэньваюць адносіны сацыяльных груп да рэчаіснасці і выяўляюць іх інтарэсы.

ІНДЫВІД (рус. ИНДИВИД) — асобна ўзяты чалавек з усімі ўласцівымі яму фізічнымі і сацыяльнымі рысамі.

ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ (рус. ИНДИВИДУАЛЬНОСТЬ) — непаўторная своеасаблівасць якой-небудзь з'явы, асобнай істоты, чалавека; супрацьлегласць агульнага, тыповага.

ІНДЫВІДУАЛЬНАЯ СВЯДОМАСЦЬ (рус. ИНДИВИДУАЛЬНОЕ СОЗНАНИЕ) — адлюстраванне існасці ў свядомасці асобнага чалавека; духоўны свет асобы.

ІНТУІЦЫЯ (рус. ИНТУИЦИЯ) — здольнасць непасрэднага спасціжэння ісціны.

ІНФАРМАЦЫЯ (рус. ИНФОРМАЦИЯ) — у шырокім сэнсе — здольнасць сістэмы ці аб'екта адлюстроўваць рысы і якасці іншых сістэм ці аб'ектаў у працэсе іх узаемадзеяння.

ІРРАЦЫЯНАЛІЗМ (рус. ИРРАЦИОНАЛИЗМ) — філасофскае вучэнне, паводле якога пазнавальныя магчымасці розуму і мыслення абмежаваныя; прызнае асноўнымі сродкамі пазнання інтуіцыю, пачуццё, інстынкт.

ІСЦІНА (рус. ИСТИНА) — адпаведнасць ведаў рэчаіснасці.

КАНФАРМІЗМ (рус. КОНФОРМИЗМ) — прыстасавальніцтва, пасіўнае далучэнне да існуючага парадку, пануючых ацэнак; адсутнасць уласнай пазіцыі, некрытычная прыхільнасць да думкі большасці, аўтарытэту, традыцыі і г. д.

КАСМАПАЛІТЫЗМ (рус. КОСМОПОЛИТИЗМ) — тэорыя, якая заклікае адмовіцца ад патрыятычнага пачуцця ў імя «адзінства чалавечнага роду».

КАТЭГОРЫЯ (рус. КАТЕГОРИЯ) — гранічна агульнае, фундаментальнае паняцце, якое адлюстроўвае найбольш грунтоўныя, заканамерныя сувязі і адносіны рэальнасці і пазнання.

КЛАС (рус. КЛАСС) — 1) закончаная ці бясконцая сукупнасць прадметаў, вылучаных на падставе пэўнай прыметы; усведамляецца і ўспрымаецца як цэлае; 2) сукупнасць людзей, якія маюць аднолькавыя адносіны да сродкаў вытворчасці.

МАДЭЛІРАВАННЕ (рус. МОДЕЛИРОВАНИЕ) — узнаўленне характарыстык некаторага аб'екта на другім аб'екце, які спецыяльна створаны для іх вывучэння.

МАНІЗМ (рус. МОНИЗМ) — філасофскі напрамак, які прызнае існаванне толькі адной субстанцыі. У залежнасці ад таго, што разглядаецца ў якасці субстанцыі — матэрыя або дух, — адрозніваюць матэрыялістычны і ідэалістычны манізм.

МАТЭРЫЯ (рус. МАТЕРИЯ) — аб'ектыўная рэальнасць, якая існуе па-за чалавечай свядомасцю, не залежыць ад яе.

МАТЭРЫЯЛІЗМ (рус. МАТЕРИАЛИЗМ) — філасофскі напрамак, прадстаўнікі якога сцвярджаюць першаснасць матэрыяльнага і другаснасць духоўнага, ідэальнага, што азначае спрадвечнасць свету, бясконцасць яго ў часе і прасторы.

МЕТАДАЛОГІЯ (рус. МЕТОДОЛОГИЯ) — 1) сукупнасць пазнавальных сродкаў, метадаў, прыёмаў, аб'яднаных агульнымі прынцыпамі; 2) галіна ведаў, якая вывучае сродкі, прадпасылкі і прынцыпы арганізацыі пазнавальнай і практычна-пераўтвараючай дзейнасці.

МЕТАФІЗІКА (рус. МЕТАФИЗИКА) — 1) антыдыялектыка; 2) навука аб звышпачуццёвых прынцыпах і пачатках.

МОВА (рус. ЯЗЫК) — знакавая сістэма, якая выконвае пазнавальную і камунікатыўную функцыі ў працэсе дзейнасці чалавека, іcнавання іншай фізічнай прыроды.

МЫСЛЕННЕ (рус. МЫШЛЕНИЕ) — найвышэйшая форма актыўнага адлюстравання аб'ектыўнай рэчаіснасці, якая ўзнікае ў працэсе мэтанакіраванага, апасродкаванага і абагульненага пазнання, суб'ектам грунтоўных сувязей і адносін прадметаў і з'яў, у творчым стварэнні новых ідэй.

НААСФЕРА (рус. НООСФЕРА) — вобласць планеты, ахопленая разумнай чалавечай дзейнасцю.

НАВУКА (рус. НАУКА) — сфера чалавечай дзейнасці, функцыя якой — выпрацоўка і тэарэтычная сістэматызацыя аб'ектыўных ведаў аб рэчаіснасці.

НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ (рус. НАУЧНО-ТЕХНИЧЕСКАЯ РЕВОЛЮЦИЯ) — карэнныя, якасныя змены ў сучаснай сістэме навукі, тэхнікі і вытворчасці, што ахопліваюць усе кампаненты гэтай сістэмы, усе аспекты тэхналагічных адносін, пры якіх вытворчасць становіцца тэхналагічным прымяненнем навукі.



НАДБУДОВА (рус. НАДСТРОЙКА) — гэта ўзаемазвязаная сістэма грамадскіх з'яў, народжаных эканамічным базісам.

НАЗІРАННЕ (рус. НАБЛЮДЕНИЕ) — метад пазнання — мэтанакіраванае і арганізаванае ўспрыманне знешняга свету, якое дае першасны матэрыял для навуковага даследавання.

НАРОД (рус. НАРОД) — 1) усё насельніцтва пэўнай краіны; 2) народныя масы, якія ўключаюць на розных этапах гісторыі тыя пласты, класы насельніцтва, якія паводле свайго становішча здольныя забяспечваць грамадскі прагрэс; тварэц гісторыі, вядучая сіла карэнных грамадскіх перабудоў; 3) розныя формы гістарычных супольнасцей (племя, народнасць, нацыя).

НАТУРАЛІЗМ (рус. НАТУРАЛИЗМ) — метадалагічны прынцып, уласцівы некаторым тэорыям, якія спрабавалі вытлумачыць развіццё грамадства законамі прыроды (кліматычнымі ўмовамі, геаграфічным асяроддзем, біялагічнымі і расавымі асаблівасцямі людзей і г. д.).

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ (рус. НАЦИОНАЛЬНОЕ САМОСОЗНАНИЕ) — асэнсаванне людзьмі сваёй нацыянальнай прыналежнасці да таго ці іншага народу, адлюстраванне яго нацыянальных інтарэсаў.

НЕАБХОДНАСЦЬ І ВЫПАДКОВАСЦЬ (рус. НЕОБХОДИМОСТЬ И СЛУЧАЙНОСТЬ) — філасофскія катэгорыі, якія адлюстроўваюць два віды аб'ектыўных сувязей матэрыяльнага свету. Н. вынікае з унутранай сувязі з'яў, вызначае іх заканамернасці, парадак і структуру.

ПАЗНАННЕ (рус. ПОЗНАНИЕ) — найважнейшае праяўленне духоўнай актыўнасці чалавека, якая ўяўляе сабой працэс ідэальнага ўзнаўлення зместу рэчаў, іх уласцівасцей, сувязей і адносін.

ПАНТЭІЗМ (рус. ПАНТЕИЗМ) — філасофскае вучэнне, якое максімальна зблiжае паняцці «бог» і «прырода», вядзе да іх атаясамлівання.

ПЕРАЕМНАСЦЬ (рус. ПРЕЕМСТВЕННОСТЬ) — аб'ектыўна неабходная сувязь паміж новым і старым у працэсе развіцця.

ПЕРАКАНАННЕ (рус. УБЕЖДЕНИЕ) — погляды, якія актыўна прымаюцца людзьмі, адпавядаюць іхняму духоўнаму складу, з'яўляюцца рэгулятарамі паводзін.

ПЛЮРАЛІЗМ (рус. ПЛЮРАЛИЗМ) — філасофскі напрамак, у аснове якога ляжыць ідэя аб расчлянёнасці свету на мноства самастойных субстанцый.

ПРАГРЭС (рус. ПРОГРЕСС) — тып развіцця складаных сістэм, якому ўласцівы пераход ад ніжэйшага да вышэйшага, ад простага да складанага, ад менш дасканалага да больш дасканалага.

ПРАКТЫКА (рус. ПРАКТИКА) — спецыфічна чалавечая, свядомая, мэтазгодная пачуццёва-прадметная дзейнасць, накіраваная на вытворчасць рэчаў, стварэнне сацыяльных інстытутаў для задавальнення тых ці іншых патрэбнасцей людзей.

ПРЫРОДА (рус. ПРИРОДА) — вакольны свет у яго бясконцай разнастайнасці праяўленняў; аб'ектыўная рэальнасць, якая існуе па-за свядомасцю і ад яе не залежыць.

РАЦЫЯНАЛІЗМ (рус. РАЦИОНАЛИЗМ) — вучэнне (у тэорыі пазнання), паводле якога ўсеагульнасць і неабходнасць — лагічныя прыметы верагоднасці ведаў — не могуць быць выведзены з вопыту і яго абагульненняў; яны могуць быць узяты толькі з самога розуму або з паняццяў, уласцівых розуму ад нараджэння, ці з паняццяў, існуючых у выглядзе задаткаў, схільнасцей.

РЭАЛЬНАСЦЬ (рус. РЕАЛЬНОСТЬ) — ў дыялектычным матэрыялізме ўжываецца ў двух значэннях: 1) аб'ектыўная Р. — г. зн. матэрыя ў сукупнасці розных яе відаў (Р. супрацьпастаўляецца тут суб'ектыўнай рэальнасці, г. зн. з'явам свядомасці); 2) усё існуючае — г. зн. матэрыяльны свет і ўсе яго матэрыяльныя прадукты.

РЭГРЭС (рус. РЕГРЕСС) — тып развіцця, пераход ад вышэйшага да ніжэйшага; працэс дэградацыі, паніжэння ўзроўню арганізацыі, страта здольнасці выконваць тыя ці іншыя функцыі. Уключае таксама моманты застою, звароту да адміраючых формаў і структур. У сацыяльным быцці — гэта распад вытворчасці, разбурэнне зарэкамендаваных сацыяльных інстытутаў і грамадскіх адносін, страта другіх раней набытых каштоўнасцей.

РЭЛЯТЫВІЗМ (рус. РЕЛЯТИВИЗМ) — вучэнне аб адноснасці, умоўнасці і суб'ектыўнасці чалавечага пазнання.

РЭФОРМА (рус. РЕФОРМА) — пераўтварэнне, змяненне, перабудова якога-небудзь аспекту грамадскага жыцця (парадкаў, інстытутаў, устаноў) пры захаванні асноў існуючай сацыяльнай структуры.

САМАСВЯДОМАСЦЬ (рус. САМОСОЗНАНИЕ) — усведамленне, ацэнка чалавекам сваіх ведаў, маральнага аблічча і інтарэсаў, ідэалаў і матываў паводзін, уласная ацэнка самога сябе як суб'екта дзейнасці.



САФІСТЫКА (рус. СОФИСТИКА) — свядомае прымяненне ў спрэчцы альбо ў доказах няправільных меркаванняў.

САЦЫЯЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ (рус. СОЦИАЛЬНАЯ РЕВОЛЮЦИЯ) — спосаб пераходу ад адной грамадска-эканамічнай фармацыі да другой, карэнны якасны пераварот ва ўсёй сацыяльна-эканамічнай структуры грамадства.

СВАБОДА (рус. СВОБОДА) — здольнасць чалавека дзейнічаць у адпаведнасці са сваімі інтарэсамі і мэтамі, пры наяўнасці неабходных для гэтага варункаў і з улікам аб'ектыўнай заканамернасці гістарычных і прыродных з'яў.

СВЕТАПОГЛЯД (рус. МИРОВОЗЗРЕНИЕ) — спосаб разумення, ацэнкі і вытлумачэння рэчаіснасці, яе цэласнае бачанне, выяўленне месца і ролі чалавека ў свеце.

СВЯДОМАСЦЬ (рус. СОЗНАНИЕ) — вышэйшая, уласцівая толькі чалавеку форма адлюстравання рэчаіснасці ў ідэальных вобразах.

СМЕРЦЬ (рус. СМЕРТЬ) — незваротнае спыненне жыццядзейнасці арганізма, непазбежны прыродны канец існавання жывой істоты.

СТЫХІЙНАСЦЬ (рус. СТИХИЙНОСТЬ) — 1) характарыстыка падзей, якія адбываюцца ў прыродзе без якога-небудзь уздзеяння на іх з боку чалавека; 2) сацыяльныя падзеі, з'явы, непадуладныя свядомаму кантролю людзей.

СУБ'ЕКТ (рус. СУБЪЕКТ) — носьбіт прадметна-практычнай дзейнасці і пазнання, крыніца актыўнасці, скіраваная на аб'ект.

СУБ'ЕКТЫВІЗМ (рус. СУБЪЕКТИВИЗМ) — філасофскі кірунак, прыхільнікі якога непамерна перабольшваюць значнасць суб'ектыўнага боку дзейнасці чалавека, прыніжаючы значнасць аб'ектыўных фактараў.

СУБ'ЕКТЫЎНЫ ІДЭАЛІЗМ (рус. СУБЪЕКТИВНЫЙ ИДЕАЛИЗМ) — кірунак філасофіі, прадстаўнікі якога адмаўляюць правамернасць тэзіса аб існаванні аб'ектыўнай рэальнасці, незалежнай ад волі і свядомасці суб'екта.

СУБ'ЕКТЫЎНЫ ФАКТАР (рус. СУБЪЕКТИВНЫЙ ФАКТОР) — мэтанакіраваная дзейнасць мас, класаў, партый, дзяржавы, асоб, іх свядомасць, воля, уменне дзейнічаць і г. д.

СУПРАЦЬЛЕГЛАСЦЬ (рус. ПРОТИВОПОЛОЖНОСТЬ) — катэгорыя, якая выражае адну са ступеней развіцця супярэчнасці. Знешняя С. ёсць гранічная ступень неаднолькавасці падобных, але ўнутрана не звязаных рэчаў, працэсаў. Унутраная С. прадвызначае наяўнасць унутранай неабходнай сувязі, адзінства супрацьлеглых рэчаў, працэсаў.

СУПЯРЭЧНАСЦЬ (рус. ПРОТИВОРЕЧИЕ) — катэгорыя, якая выяўляе ўнутраную крыніцу ўсякага развіцця, руху.

СУТНАСЦЬ (рус. СУЩНОСТЬ) — рэч сама па сабе; унутраны, адносна ўстойлівы сэнс прадметаў і працэсаў, які вызначаецца іх прыродай.

СХАЛАСТЫКА (рус. СХОЛАСТИКА) — тып рэлігійнай філасофіі, які характэрызуецца прынцыповым падпарадкаваннем прымату тэалогіі, злучэннем дагматычных перадумоў з рацыяналістычнай методыкай і цікаўнасцю да фармальналагічнай праблематыкі.

СЦЫЕНТЫЗМ (рус. СЦИЕНЦИЗМ) — канцэпцыя, якая заключаецца ў абсалютызацыі ролі навукі ў сістэме культуры, у ідэйным жыцці грамадства.

ТВОРЧАСЦЬ (рус. ТВОРЧЕСТВО) — працэс стварэння чалавекам якасна новых матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей.

ТЛУМАЧЭННЕ (рус. ОБЪЯСНЕНИЕ) — найважнейшая функцыя чалавечага пазнання, у прыватнасці навуковага даследавання (і адпаведна той яго этап, на якім гэта функцыя рэалізуецца), сутнасць якой — раскрыць змест вывучаемага прадмета.

ТЭОРЫЯ (рус. ТЕОРИЯ) — сістэма абагульненых верагодных ведаў.

ТЭХНІКА (рус. ТЕХНИКА) — 1) прылады, інструменты працы і іншыя штучныя прыстасаванні, створаныя чалавекам, якія выкарыстоўваюцца для пераўтварэння навакольнага асяроддзя, стварэння іншых сродкаў вытворчасці і прадметаў, неабходных для задавальнення розных патрэбнасцей; 2) сістэма звычак, узровень майстэрства ў рэалізацыі таго ці іншага віда дзейнасці.

УСПРЫМАННЕ (рус. ВОСПРИЯТИЕ) — вобраз (зрокавы, слыхавы і інш.) знешніх структурных характарыстык прадметаў і працэсаў матэрыяльнага свету, якія непасрэдна ўздзейнічаюць на органы пачуццяў.



УЯЎЛЕННЕ (рус. ПРЕДСТАВЛЕНИЕ) — пачуццёва-наглядны, абагульнены вобраз прадметаў і з'яў, які захоўваецца і ўзнаўляецца ў свядомасці без непасрэднага уздзеяння саміх прадметаў і з'яў на органы пачуццяў.

ФАТАЛІЗМ (рус. ФАТАЛИЗМ) — канцэпцыя, паводле якой усе працэсы, што адбываюцца ў свеце, падпарадкоўваюцца панаванню неабходнасці, якая не пакідае месца свабодзе, творчасці.

ФІЛАСОФІЯ (рус. ФИЛОСОФИЯ) — форма грамадскай свядомасці, сутнасць якой заключаецца ў тэарэтычным асэнсаванні асноў культуры. Прадметам Ф. выступае сістэма адносін паміж чалавекам і светам.

ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ (рус. ЦИВИЛИЗАЦИЯ) — матэрыялізаваная ў прадуктах чалавечай творчасці культура.

ЦЫКЛІЧНАСЦЬ (рус. ЦИКЛИЧНОСТЬ) — характар развіцця, якому ўласціва вяртанне да мінулых формаў, іх паўтарэнне.

ЧАЛАВЕК (рус. ЧЕЛОВЕК) — суб'ект гістарычнага працэсу развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры на Зямлі; біясацыяльная істота, генетычна звязаная з іншымі формамі жыцця, вылучаная з іх дзякуючы здольнасці рабіць прылады працы і валодаючая членападзельнай мовай, мысленнем, маральнаэтычнымі якасцямі.

ЭКАЛОГІЯ (рус. ЭКОЛОГИЯ) — 1) навука аб адносінах раслінных і жывёльных арганізмаў, утвараемых імі згуртаванняў паміж сабой і з навакольным асяроддзем; 2) галіна навуковых ведаў аб узаемадзеянні жывых сістэм (г. ч. грамадства) з навакольным асяроддзем.

ЭКЛЕКТЫКА (рус. ЭКЛЕКТИКА) — бяспрынцыпнае змешванне разнастайных, часта супрацьлеглых пунктаў гледжання, філасофскіх поглядаў, тэарэтычных пасылак, палітычных ацэнак і г. д.

## II. ЛОГІКА

АБАРАЧЭННЕ (рус. ОБРАЩЕНИЕ) — пераўтварэнне меркавання шляхам абмену месцамі яго тэрмінаў.

АБВЯРЖЭННЕ (рус. ОПРОВЕРЖЕНИЕ) — перакананне ў памылковасці або няправільнасці наяўных сцверджанняў, меркаванняў або доказаў.

АЗНАЧЭННЕ (рус. ОПРЕДЕЛЕНИЕ) — лагічная аперацыя, якая раскрывае змест паняцця (сінонім А. — дэфініцыя).

АЛАГІЗМ (рус. АЛОГИЗМ) — нелагічнасць, адмаўленне ролі лагічнага мыслення як неабходнага сродку дасягнення ісціны; ход думкі, які ігнаруе законы і правілы логікі.

АНАЛІЗ (рус. АНАЛИЗ) — навуковы метад даследавання, які прадугледжвае расчляненне (мысленнае і фактычнае) цэлага на састаўныя часткі.

АНТЫТЭЗІС (рус. АНТИТЕЗИС) — супрацьстаўленне; зыходная пасылка лагічнага вываду ў доказе ад процілеглага.

АПАДЫКТЫЧНЫ (рус. АПОДИКТИЧЕСКИЙ) — безумоўны, дакладны, заснаваны на лагічнай неабходнасці.

АРГУМЕНТ (рус. АРГУМЕНТ) — меркаванне або сукупнасць узаемазвязаных меркаванняў, якія прыводзяцца ў пацвярджэнне якога-небудзь меркавання.

АТРЫБУТ (рус. АТРИБУТ) — неабходная, істотная, неад'емная ўласцівасць прадмета.

ВЕРАГОДНАСЦЬ (рус. ВЕРОЯТНОСТЬ) — паняцце, якое характарызуе колькасную меру магчымасці якой-небудзь падзеі пры пэўных умовах.

ВЕРЫФІКАЦЫЯ (рус. ВЕРИФИКАЦИЯ) — устанаўленне ісцінасці навуковых сцверджанняў у выніку іх эмпірычнай праверкі.

ВЫКАЗВАННЕ (рус. ВЫСКАЗЫВАНИЕ) — апавядальны сказ, які разглядаецца разам з яго зместам як ісціннае або памылковае.

ГІПОТЭЗА (рус. ГИПОТЕЗА) — навуковае меркаванне, дастасаванае да тлумачэння якой-небудзь з'явы; патрабуе тэарэтычнага абгрунтавання і праверкі на вопыце.

ДОКАЗ (рус. ДОКАЗАТЕЛЬСТВО) — разважанне, мэта якога — абгрунтаваць ісцінасць або памылковасць якога-небудзь сцверджання (меркавання).

ДЫЗ'ЮНКЦЫЯ (рус. ДИЗЪЮНКЦИЯ) — складанае выказванне, утворанае з двух (і больш) меркаванняў пры дапамозе злучніка «або», які выражае альтэрнатыўнасць або выбар.

ДЫЛЕМА (рус. ДИЛЕММА) — меркаванне, паводле якога прадмету прыпісваюцца дзве супярэчлівыя прыметы, што выключаюць магчымасць трэцяй.



ДЭДУКЦЫЯ (рус. ДЕДУКЦИЯ) — пераход ад агульнага да асобнага, адзін з асноўных спосабаў розумазаключэння; пераход па правілах логікі ад некаторых дадзеных меркаванняў-пасылак да іх вывадаў (заключэння).

ДЭМАНСТРАЦЫЯ (рус. ДЕМОНСТРАЦИЯ) — форма разважання (розумазаключэнні і іх ўзаемасувязь), пры дапамозе якой даказваецца сапраўднасць тэзіса.

ІМПЛІКАТЫЎНАЕ МЕРКАВАННЕ (рус. ИМПЛИКАТИВНОЕ СУЖДЕНИЕ) — складанае меркаванне, ў якім два меркаванні злучаны лагічным злучнікам «калі..., то...».

ІНДУКЦЫЯ (рус. ИНДУКЦИЯ) — адзін з асноўных відаў розумазаключэння, калі вывад уяўляе сабой веды аб усім класе прадметаў, атрыманыя ў выніку даследавання асобных элементаў гэтага класа.

КАНТРАДЫКТАРНЫЯ АДНОСІНЫ (рус. КОНТРАДИКТОРНЫЕ ОТНОШЕНИЯ) — адносіны паміж супярэчлівымі меркаваннямі (а таксама паняццямі), якія ў сукупнасці не могуць быць ні сапраўднымі, ні памылковымі.

КАН'ЮНКЦЫЯ (рус. КОНЪЮНКЦИЯ) — лагічная аперацыя, пры якой фарміруецца і разгортваецца складанае выказванне з двух і больш выказванняў, аб'яднаных пры дапамозе лагічнага злучніка «і».

КЛАСІФІКАЦЫЯ (рус. КЛАССИФИКАЦИЯ) — падзел аб'ёму паняцця на класы, віды і г. д.

ЛАГІЧНАЯ ПАСТАЯННАЯ (рус. ЛОГИЧЕСКАЯ ПОСТОЯННАЯ) — назва тэрміна, які захоўвае адно і тое ж значэнне ва ўсіх выказваннях і не залежыць ад канкрэтнага зместу выказвання — «усе», «усякія», «некаторыя», «калі..., то...», «і», «або» і г. д.

ЛОГІКА (рус. ЛОГИКА) — навука аб спосабах доказаў і абвяржэнняў; сукупнасць навуковых тэорый, у кожнай з якіх разглядаюцца пэўныя спосабы доказаў і абвяржэнняў.

МОДУС (рус. МОДУС) — якасць прадмета, з'явы, уласцівыя ім не пастаянна, а толькі ў пэўным стане. Модусы сілагізма — разнавіднасці сілагізма па якасці і колькасці тых меркаванняў, якія складаюць яго пасылкі.

ПАСЫЛКА (рус. ПОСЫЛКА) — зыходныя дадзеныя (меркаванні, факты, аксіёмы і інш.), на падставе якіх робяцца дэдуктыўныя і індуктыўныя вывады.

СІЛАГІЗМ (рус. СИЛЛОГИЗМ) — розумазаключэнне, што складаецца з двух меркаванняў (пасылак), з якіх выводзіцца трэцяе меркаванне (вывад).

СІНТЭЗ (рус. СИНТЕЗ) — мысленнае спалучэнне ў адзінае цэлае элементаў, частак прадмета, веды аб якіх атрыманы ў працэсе аналізу гэтага прадмета.

ЭНТЫМЕМА (рус. ЭНТИМЕМА) — скарочаны сілагізм, у якім апушчана адна з частак, што падразумяваецца.

ЭПІХЕЙРЭМА (рус. ЭПИХЕЙРЕМА) — сілагізм, у якім кожная з пасылак з'яўляецца энтымемай (скарочаным сілагізмам).

## III. САЦЫЯЛОГІЯ

АНКЕТА (рус. АНКЕТА) — аб'яднаная адзінай даследчай задумай сістэма пытанняў (апытальны ліст), на якія рэспандэнт самастойна дае пісьмовыя адказы.

АНТРАПАЛОГІЯ САЦЫЯЛЬНАЯ (рус. АНТРОПОЛОГИЯ СОЦИАЛЬНАЯ) — раздзел сацыялогіі, які вывучае прымітыўныя і традыцыйныя (дакапіталістычныя) грамадскія сістэмы.

АПЕРАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ ПАНЯЦЦЯ (рус. ОПЕРАЦИОНАЛИЗАЦИЯ ПОНЯТИЯ) — расчляненне паняцця на састаўныя элементы, якія здольныя ў сукупнасці ахарактэрызаваць яго змест.

АПЫТАННЕ (рус. ОПРОС) — метад збору пярвічнай інфармацыі пры дапамозе звароту з пытаннямі да пэўнай групы людзей.

АСОБА (рус. ЛИЧНОСТЬ) — інтэгральная сацыяльная якасць, што фарміруецца ў чалавека ў працэсе ўключэння яго ў сістэму грамадскіх адносін, асваення матэрыяльных і духоўных прадуктаў чалавечай культуры.

ВАЛІДНАСЦЬ САЦЫЯЛАГІЧНАЙ ІНФАРМАЦЫІ (рус. ВАЛИДНОСТЬ СОЦИОЛОГИЧЕСКОЙ ИНФОРМАЦИИ) — адсутнасць у інфармацыі тэарэтычных памылак.

ВЫБАРАЧНАЯ СУКУПНАСЦЬ (рус. ВЫБОРОЧНАЯ СОВОКУПНОСТЬ) — частка элементаў генеральнай сукупнасці, вылучаная пры дапамозе спецыяльных метадаў.

ГЕНЕРАЛЬНАЯ СУКУПНАСЦЬ (рус. ГЕНЕРАЛЬНАЯ СОВОКУПНОСТЬ) — мноства элементаў, аб'яднаных пэўнай агульнай характарыстыкай, якая паказвае іх прыналежнасць да дадзенай сістэмы.



ГІПОТЭЗА ПРЫКЛАДНОГА САЦЫЯЛАГІЧНАГА ДАСЛЕДАВАННЯ (рус. ГИПОТЕЗА ПРИКЛАДНОГО СОЦИОЛОГИЧЕСКОГО ИССЛЕДОВАНИЯ) — навуковае меркаванне аб структуры сацыяльных аб'ектаў, характары і сутнасці сувязей паміж вывучаемымі сацыяльнымі з'явамі, аб фактарах, якія дэтэрмінуюць гэтыя сувязі.

ГІСТАРЫЗМ (рус. ИСТОРИЗМ) — адзін з вядучых метадалагічных прынцыпаў, які прадугледжвае вывучэнне сацыяльных з'яў у працэсе іх узнікнення, станаўлення і развіцця.

ГРАМАДСКАЯ ДУМКА (рус. ОБЩЕСТВЕННОЕ МНЕНИЕ) — спецыфічнае праяўленне (стан) грамадскай свядомасці, якое заключае ў сабе яўныя або скрытныя адносіны пэўных сацыяльных супольнасцей да актуальных праблем рэчаіснасці.

ГРАМАДСТВА (рус. ОБЩЕСТВО) — гістарычна зменлівая сукупнасць чалавечых адносін, якія складваюцца ў працэсе сумеснай дзейнасці людзей.

ГРАМАДСТВА ІНДУСТРЫЯЛЬНАЕ (рус. ОБЩЕСТВО ИНДУСТРИАЛЬНОЕ)—катэгорыя, якая выкарыстоўваецца для характарыстыкі сучасных «развітых» грамадстваў.

ГРАМАДСТВА ТРАДЫЦЫЙНАЕ (рус. ОБЩЕСТВО ТРАДИЦИОННОЕ) — дакапіталістычныя (даіндустрыяльныя) грамадскія ўклады аграрнага тыпу, для якіх характэрны высокая структурная ўстойлівасць і сацыякультурная рэгуляцыя на аснове традыцыі.

ГРУПАВАННЕ (рус. ГРУППИРОВКА) — аб'яднанне па істотных прыкметах адзінак назіраемага аб'екта ў аднародныя сукупнасці.

ДАРВІНІЗМ САЦЫЯЛЬНЫ (рус. ДАРВИНИЗМ СОЦИАЛЬНЫЙ) — плынь у грамадскіх навуках, якая спрабавала звесці законы развіцця грамадства да чыста біялагічных заканамернасцей.

ДАСЛЕДАВАННЕ САЦЫЯЛАГІЧНАЕ (рус. ИССЛЕДОВАНИЕ СОЦИОЛОГИЧЕСКОЕ) — сукупнасць лагічна паслядоўных аперацый, аб'яднаных агульнай мэтай — атрымаць дакладную інфармацыю аб сацыяльнай з'яве або працэсе.

ІЕРАРХІЯ САЦЫЯЛЬНАЯ (рус. ИЕРАРХИЯ СОЦИАЛЬНАЯ) — форма пабудовы сацыяльных сістэм на аснове падпарадкавання «ніжэйшых» узроўняў «верхнім», цэнтралізацыі ўпраўлення і яго бюракратызацыі.

ІНСТРУМЕНТАРЫЙ САЦЫЯЛАГІЧНАГА ДАСЛЕДАВАННЯ (рус. ИНСТРУМЕНТАРИЙ СОЦИОЛОГИЧЕСКОГО ИССЛЕДОВАНИЯ) — набор спецыяльных сродкаў і дакументаў, з дапамогай якіх праводзіцца збор і сістэматызацыя эмпірычнай інфармацыі пра вывучаемы аб'ект.

ІНТЭРВ'Ю (рус. ИНТЕРВЬЮ) — адзін з асноўных відаў апытання, гутарка даследчыка і рэспандэнта.

ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ПАНЯЦЦЯЎ (рус. ИНТЕРПРЕТАЦИЯ ПОНЯТИЙ) — вытлумачэнне, удакладненне сэнсу паняццяў.

КАЛЕКТЫЎ (рус. КОЛЛЕКТИВ) — арганізаваная сацыяльная супольнасць людзей, аб'яднаных канкрэтным відам дзейнасці на аснове пэўнай формы ўласнасці і агульных умоў дзейнасці.

КАНСЭНСУС (рус. КОНСЕНСУС) — у сацыялагічным сэнсе гэта згода пераважнай большасці людзей па важнейшых сацыяльных праблемах, якая выражаецца ў дзеянні.

КАНФЛІКТ САЦЫЯЛЬНЫ (рус. КОНФЛИКТ СОЦИАЛЬНЫЙ) — гранічнае абвастрэнне сацыяльных супярэчнасцей, якое выражаецца ў сутыкненні пэўных сацыяльных супольнасцей.

КВАНТЫФІКАЦЫЯ (рус. КВАНТИФИКАЦИЯ) — сукупнасць метадаў і спосабаў колькаснага апісання ўласцівасцей сацыяльных аб'ектаў.

МАБІЛЬНАСЦЬ САЦЫЯЛЬНАЯ (рус. МОБИЛЬНОСТЬ СОЦИАЛЬНАЯ) — пераход людзей з адных грамадскіх груп і слаёў у іншыя, змена іх сацыяльнага статусу.

НАМІНАЛІЗМ САЦЫЯЛАГІЧНЫ (рус. НОМИНАЛИЗМ СОЦИОЛОГИЧЕСКИЙ) — тэарэтычная і метадалагічная арыентацыя, якая аб'яўляе чалавека (індывіда) крыніцай і адзіным суб'ектам сацыяльнага. Адмаўляе анталагічны змест паняццяў, якія выражаюць любое сацыяльнае цэлае (грамадства, група і г. д.). Супрацьстаіць сацыялагічнаму рэалізму.

ПАЛЯВОЕ ДАСЛЕДАВАННЕ (рус. ПОЛЕВОЕ ИССЛЕДОВАНИЕ) — вывучэнне сацыяльнага аб'екта ў натуральных умовах, апытанне на месцы.

ПАНЭЛЬНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ (рус. ПАНЕЛЬНОЕ ИССЛЕДОВАНИЕ) — паўторнае даследаванне, якое прадугледжвае вывучэнне сацыяльнага аб'екта праз пэўны часавы інтэрвал па адной і той жа праграме і методыцы.

ПІЛАТАЖНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ (рус. ПИЛОТАЖНОЕ ИССЛЕДОВАНИЕ) — пробнае даследаванне, якое папярэднічае асноўнаму і прызначана для праверкі якасці падрыхтоўкі.



ПРАГРАМА ДАСЛЕДАВАННЯ (рус. ПРОГРАММА ИССЛЕДОВАНИЯ) — выклад асноўных задач, метадалагічных і працэдурных прадпасылак навуковага пошуку.

РЭАЛІЗМ САЦЫЯЛАГІЧНЫ (рус. РЕАЛИЗМ СОЦИОЛОГИЧЕСКИЙ) — агульнатэарэтычны і метадалагічны погляд, паводле якога грамадства ў цэлым і сацыяльныя інстытуты дзейнічаюць незалежна ад індывідуальнай свядомасці. Супрацьстаіць сацыялагічнаму наміналізму.

РЭПРЭЗЕНТАТЫЎНАСЦЬ (рус. РЕПРЕЗЕНТАТИВНОСТЬ) — уласцівасць выбаркі адлюстроўваць характарыстыкі генеральнай сукупнасці.

РЭСПАНДЭНТ (рус. РЕСПОНДЕНТ) — чалавек, які з'яўляецца крыніцай вуснай або пісьмовай інфармацыі ў сацыялагічным даследванні.

РЭФЕРЭНТНАЯ ГРУПА (рус. РЕФЕРЕНТНАЯ ГРУППА) — такая сацыяльная група, якая служыць для індывіда стандартам, крыніцай фарміравання сацыяльных нормаў і вартасных арыентацый.

САЦЫЁМЕТРЫЯ (рус. СОЦИОМЕТРИЯ) — метад колькасных вымярэнняў і аналізу міжасабовых узаемаадносін у малых сацыяльных групах.

САЦЫЯЛІЗАЦЫЯ (рус. СОЦИАЛИЗАЦИЯ) — працэс станаўлення асобы, асваення індывідам каштоўнасцей, нормаў, установак, якія ўласцівы пэўнаму грамадству, сацыяльнай супольнасці.

САЦЫЯЛОГІЯ (рус. СОЦИОЛОГИЯ) — навука аб агульных і спецыфічных законах і заканамернасцях развіцця і функцыяніравання пэўных сацыяльных сістэм, аб іх механізмах дзеяння і формах праяўлення ў дзейнасці асоб, сацыяльных груп і супольнасцей. С. — навука аб грамадстве як сістэме, якая знаходзіцца ў развіцці (М. Н. Руткевіч). С. — навука аб грамадстве і сацыяльных адносінах (Н. Смелзер).

САЦЫЯЛЬНАЕ (рус. СОЦИАЛЬНОЕ) — сукупнасць пэўных уласцівасцей і асаблівасцей грамадскіх адносін, інтэграваная індывідам або супольнасцямі ў працэсе сумеснай дзейнасці (узаемадзеяння). Праяўляецца ў іх адносінах адзін да аднаго, да свайго становішча ў грамадстве, да з'яў і працэсаў грамадскага жыцця. Паняцце «С.» выкарыстоўваецца у шырокім сэнсе — як сінонім грамадскага ў адрозненне ад прыроднага; у

вузкім — як частка грамадскага, пэўных аспектаў грамадскага жыцця (разам з эканамічнай, юрыдычнай, палітычнай і г. д.).

САЦЫЯЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ (рус. СОЦИАЛЬНАЯ СРЕДА) — навакольны сацыяльны свет чалавека.

САЦЫЯЛЬНАЯ АДАПТАЦЫЯ (рус. СОЦИАЛЬНАЯ АДАПТАЦИЯ) — актыўнае асваенне асобай або групай новага для яе сацыяльнага асяроддзя.

САЦЫЯЛЬНАЯ ГРУПА (рус. СОЦИАЛЬНАЯ ГРУППА) — адносна устойлівая сукупнасць людзей, аб'ядданых агульнымі інтарэсамі, каштоўнасцямі, нормамі свядомасці і паводзін. Складваецца ў канкрэтна-гістарычных умовах.

САЦЫЯЛЬНАЯ ДЫЯГНОСТЫКА (рус. СОЦИАЛЬНАЯ ДИАГНОСТИКА) — 1) вызначэнне і сутнасная характарыстыка сацыяльных з'яў і працэсаў, неабходных для далейшага аналізу; 2) выяўленне і ацэнка сацыяльных хвароб і адхіленняў.

САЦЫЯЛЬНАЯ ІНЕРЦЫЯ (рус. СОЦИАЛЬНАЯ ИНЕРЦИЯ) — такі стан руху, пры якім пэўныя сілы накіраваны на затармажванне грамадскага прагрэсу, на нейтралізацыю сацыяльных навconfigured.

САЦЫЯЛЬНАЯ НОРМА (рус. СОЦИАЛЬНАЯ НОРМА) — гістарычна ўсталяваная форма рэгулявання адносін і асабістых паводзін людзей; патрабаванне, якое з'яўляецца ўсеагульным і абавязковым прынцыпам паводзін.

САЦЫЯЛЬНАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ (рус. СОЦИАЛЬНАЯ ОБЩНОСТЬ) — функцыянальна абумоўленае аб'яднанне людзей, для якога характэрна шырокая сфера сумеснай жыццядзейнасці на падставе адзінства тэрыторыі, матэрыяльных і культурных каштоўнасцей. С. С. уласцівы высокая ступень адзінства яе членаў і ўнутраная сацыяльная структура, заснаваная на супрацоўніцтве і агульнай згодзе.

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА (рус. СОЦИАЛЬНАЯ ПОЛИТИКА) — мэтанакіраваная дзейнасць дзяржавы па развіццю і удасканаленню сацыяльнай сферы грамадства, яго сацыяльнай структуры, па рэгуляванню становішча і адносін сацыяльных груп і супольнасцей, задавальненню іх інтарэсаў і запатрабаванняў.

САЦЫЯЛЬНАЯ РОЛЯ (рус. СОЦИАЛЬНАЯ РОЛЬ) — адносна пастаянная сістэма дзеянняў, якая з'яўляецца ўзорам паводзін для чалавека з пэўнай сацыяльнай пазіцыяй.



САЦЫЯЛЬНАЯ СІСТЭМА (рус. СОЦИАЛЬНАЯ СИСТЕМА) — сукупнасць сацыяльных з'яў і працэсаў, якія знаходзяцца ва ўзаемных сувязях і адносінах і ўтвараюць цэласны сацыяльны аб'ект. Выступае як арганічнае адзінства сацыяльных супольнасцей, сацыяльнай арганізацыі і культуры.

САЦЫЯЛЬНАЯ СТРУКТУРА (рус. СОЦИАЛЬНАЯ СТРУКТУРА) — сукупнасць адносна ўстойлівых сувязей паміж элементамі сацыяльнай сістэмы.

САЦЫЯЛЬНЫ ПРАЦЭС (рус. СОЦИАЛЬНЫЙ ПРОЦЕСС) — сукупнасць статыстычна ўстойлівых актаў узаемадзеянняў людзей, якія выражаюць пэўную тэндэнцыю да змены (ці захавання) грамадскага становішча або вобразу жыцця вялікіх груп людзей, умоў жыццядзейнасці кожнага чалавека як асобы.

САЦЫЯЛЬНЫ СТАТУС (рус. СОЦИАЛЬНЫЙ СТАТУС) — суадноснае становішча індывіда або групы ў сацыяльнай структуры.

САЦЫЯЛЬНЫЯ АДНОСІНЫ (рус. СОЦИАЛЬНЫЕ ОТНОШЕНИЯ) — адносіны паміж людзьмі як прадстаўнікамі сацыяльных груп грамадства.

САЦЫЯЛЬНЫЯ ІНСТЫТУТЫ (рус. СОЦИАЛЬНЫЕ ИНСТИТУТЫ) — сукупнасць розных формаў арганізацыі і рэгулявання грамадскіх адносін; спецыяльныя ўстановы, сістэмы нормаў, сацыяльных роляў, якія выконваюць функцыі сацыяльнага кіравання і сацыяльнага кантролю (дзяржава, палітычныя партыі, армія, суд, сям'я, права, мараль і г. д.).

САЦЫЯТАЛЬНАЕ (рус. СОЦИЕТАЛЬНОЕ) — паняцце, якое выкарыстоўваецца для характарыстыкі грамадства ў цэлым, усёй сістэмы грамадскіх адносін (эканамічных, сацыяльных, палітычных і г. д.). Уведзена, каб унікнуць атаясамлівання сацыяльнага з грамадскім.

ТЭСТ (рус. ТЕСТ) — метад даследавання, які заключаецца ў выкарыстанні сістэмы спецыяльна падабраных выказванняў, што прад'яўляюць рэспандэнтам.

ФЕНАМЕНАЛАГІЧНАЯ САЦЫЯЛОГІЯ (рус. ФЕНОМЕНОЛОГИЧНАЯ СОЦИОЛОГИЯ) — тэарэтыка-метадалагічны напрамак, які разглядае грамадства як вынік духоўнага ўзаемадзеяння індывідаў.

ЭТАПЫ САЦЫЯЛАГІЧНАГА ДАСЛЕДАВАННЯ (рус. ЭТАПЫ СОЦИОЛОГИЧЕСКОГО ИССЛЕДОВАНИЯ) — стадыі рэалізацыі мэтаў і задач даследавання, якія характарызуюцца адноснай

незалежнасцю, лагічнай паслядоўнасцю і зместавай пераемнасцю.

## IV. ПАЛІТАЛОГІЯ

АВАНТУРЫЗМ ПАЛІТЫЧНЫ (рус. АВАНТЮРИЗМ ПОЛИТИЧЕСКИЙ) — спосаб мыслення і паводзін, рыса дзейнасці ў галіне палітыкі, ажыццяўляемай без уліку канкрэтнай абстаноўкі і аб'ектыўных законаў грамадскага развіцця.

АКТЫЎНАСЦЬ ПАЛІТЫЧНАЯ (рус. АКТИВНОСТЬ ПОЛИТИЧЕСКАЯ) — адна з важнейшых якасцей дзейнасці асобы, калектыву, партый, народных мас, накіраваная на дасягненне пэўных сацыяльна-эканамічных і палітычных мэтаў. Можа праяўляцца як у пазітыўным, так і ў негатыўным (экстрэмізм, нацыяналізм, сепаратызм і г. д.) плане.

АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ ВЫБАРЫ (рус. АЛЬТЕРНАТИВНЫЕ ВЫБОРЫ) — выбранне грамадзянамі канкрэтнай асобы ў прадстаўнічы орган, кіраўніка установы або лідэра грамадскай арганізацыі, якое прадугледжвае неабходнасць выбару аднаго з двух і большай колькасці прэтэндэнтаў.

АМБІЦЫІ ПАЛІТЫЧНЫЯ (рус. АМБИЦИИ ПОЛИТИЧЕСКИЕ) — форма палітычнага суб'ектывізму, заснаваная на вельмі асабістых уяўленнях і ацэнках палітычных падзей, што прыводзіць да прыняцця безадказных палітычных рашэнняў, палітыканства, інтрыганства і бяспрынцыпнасці.

АНАРХІЯ (рус. АНАРХИЯ) — грамадска-палітычны ідэал арганізацыі грамадства, якая выключае дзяржаўную ўладу, заснавана на самакіраванні асобных абшчын, камун, сем'яў і іншых пярвічных супольнасцей людзей. У спрошчаным разуменні А. — беспарадак у арганізацыі грамадскага жыцця, дэзарганізацыя грамадства, беззаконне ў палітыка-юрыдычнай сферы жыцця, адсутнасць кіруючага пачатку ў эканоміцы і сацыяльным жыцці.

АНТЫСЕМІТЫЗМ (рус. АНТИСЕМИТИЗМ) — адна з крайніх форм расавага шавінізму, ідэалогія і палітыка варожых адносін і праследавання асоб яўрэйскай нацыянальнасці.

АПАЛІТЫЧНАСЦЬ (рус. АПОЛИТИЧНОСТЬ) — пэўныя негатыўныя адносіны грамадзян, часткі насельніцтва краіны да палітыкі, пытанняў палітычнага жыцця. Праяўляецца, напрыклад, у абыякавасці, няпэўнасці, пасіўнасці да палітыкі дзяржавы, партыі.



АПАРАТ ПАЛІТЫЧНЫ (рус. АППАРАТ ПОЛИТИЧЕСКИЙ) — 1) сукупнасць людзей, якія забяспечваюць нармальную дзейнасць палітычнай арганізацыі шляхам выканання ўказанняў, установак, даручэнняў таго ці іншага органа, палітычнага лідэра; 2) сукупнасць органаў кіравання, устаноў, арганізацый, якія забяспечваюць функцыяніраванне палітычнай і іншых сістэм грамадства.

АЎТАКРАТЫЯ (рус. АВТОКРАТИЯ) — праўленне, пры якім кіраўнік дзяржавы валодае неабмежаванай уладай; дзяржава, якая мае такое праўленне.

АЎТАРКІЯ (рус. АВТАРКИЯ) — палітыка гаспадарчага адасаблення дадзенай краіны ад эканомікі іншых краін, імкненне стварыць замкнутую нацыянальную гаспадарку.

АЎТАРЫТАРЫЗМ (рус. АВТОРИТАРИЗМ) — палітычны рэжым, пры якім улада аднаасобнага правіцеля або кіруючай групоўкі не абмяжоўваецца правам і установамі, выбранымі шырокімі народнымі масамі; не рэалізуецца прынцып раздзялення заканадаўчай, выканаўчай і судовай улад.

АЎТАРЫТЭТ ПАЛІТЫЧНЫ (рус. АВТОРИТЕТ ПОЛИТИЧЕСКИЙ) — адна з якасных характарыстык грамадскага дзеяча, калектыву, дзяржаўнай, грамадскай і іншай арганізацыі, а таксама сістэмы ідэй, поглядаў, якія аказваюць агульнапрызнаны ўстойлівы ўплыў на палітычнае жыццё. А. П. звязаны перш за ўсё з палітычнай і грамадзянскай адказнасцю асоб і арганізацый, з іх прыстойнасцю і захаваннем законаў, дэмакратычных нормаў, з іх кампетэнтнасцю ў меркаваннях і дзеяннях.

БАНКРУЦТВА ПАЛІТЫЧНАЕ (рус. БАНКРОТСТВО ПОЛИТИЧЕСКОЕ) — банкруцтва, правал у дзейнасці правячых колаў дзяржавы, палітычнай партыі, асобных палітычных дзеячоў, іх няздольнасць выконваць свае абяцанні.

БЕЗУЛАДДЗЕ (рус. БЕЗВЛАСТИЕ) — крызісны стан грамадства ці яго асобнай адміністратыўна-тэрытарыяльнай адзінкі, які выяўляецца ў рэзкім парушэнні функцыянавання існуючых органаў улады. Ва ўмовах Б. адпаведныя органы або распадаюцца, або існуюць, але не выконваюць свае функцыі.

БЮРАКРАТЫЗМ (рус. БЮРОКРАТИЗМ) — канцыляршчына, валакіта, занядбанне сутнасці справы дзеля захавання фармальнасцей. У сферы палітычных адносін Б. праяўляецца

перш за ўсё як улада, якая ставіць канчатковай мэтай уласнае існаванне.

ВАЛЮНТАРЫЗМ У ПАЛІТЫЦЫ (рус. ВОЛЮНТАРИЗМ В ПОЛИТИКЕ) — крайняе праяўленне суб'ектывізму ў палітыцы; пазіцыя, якая расцэньвае волю, памкненні суб'екта ў якасці галоўнага фактару палітыкі; палітычная дзейнасць, якая вызначаецца суб'ектыўнаю воляй, адвольнымі рашэннямі выканаўцаў.

ВЯРШЭНСТВА ЗАКОНА (рус. ВЕРХОВЕНСТВО ЗАКОНА) — адзін з прынцыпаў узаемаадносін паміж заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладай у прававой дзяржаве; азначае, што усякае прымяненне ўлады павінна мець выключна законныя падставы.

ГРАМАДЗЯНСКАЯ ЗГОДА (рус. ГРАЖДАНСКОЕ СОГЛАСИЕ) — дзейнасць грамадзян, заснаваная на супадзенні поглядаў і зыходных арыентацыях.

ГРАМАДЗЯНСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ (рус. ОБЩЕСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ) — дабраахвотнае фарміраванне, што ўзнікае ў выніку свабоднага волевыяўлення грамадзян, аб'яднаных агульнасцю інтарэсаў (палітычныя партыі, масавы рух, прафесіянальныя саюзы, жаночыя, ветэранскія, маладзёжныя і дзіцячыя арганізацыі, навуковыя, тэхнічныя, культурна-асветныя, фізкультурна-спартыўныя і іншыя дабраахвотныя таварыствы, творчыя саюзы, зямляцтвы, фонды і інш.).

ДЗЕЙНАСЦЬ ПАЛІТЫЧНАЯ (рус. ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ ПОЛИТИЧЕСКАЯ) — удзел у выпрацоўцы і ажыццяўленні палітыкі сацыяльных груп; уключае мэты, метады і сродкі, сам працэс дзеянняў і яго вынік.

ДЗЯЛЯЦТВА ПАЛІТЫЧНАЕ (рус. ДЕЛЯЧЕСТВО ПОЛИТИЧЕСКОЕ) — вузкі практыцызм ў палітычнай дзейнасці, калі ігнаруюцца складаныя сацыяльна-палітычныя праблемы развіцця грамадства з мэтай дагадзіць карыслівым інтарэсам асобы (групе асоб).

ДЫЯЛОГ ПАЛІТЫЧНЫ (рус. ДИАЛОГ ПОЛИТИЧЕСКИЙ) — адна з форм сацыяльных зносін, пошук аб'ектыўнай ісціны ў працэсе ажыўленага абмену думкамі паміж субяседнікамі (асобамі, групамі людзей, партыямі і г. д.).

КАНСЕРВАТЫЗМ (рус. КОНСЕРВАТИЗМ) — палітычная ідэалогія і палітычная практыка, зарыентаваная на захаванне і падтрымку гістарычна сфарміраваных формаў дзяржаўнага



і грамадскага жыцця, у першую чаргу маральна-прававых яе асноў.

ЛІБЕРАЛІЗМ (рус. ЛИБЕРАЛИЗМ) — сукупнасць палітычных вучэнняў (дактрын), палітычных рухаў, якія ставяць сваёй мэтай ліквідацыю або змякчэнне розных формаў дзяржаўнага і грамадскага прымусу ў адносінах да індывіда.

ЛІДЭР ПАЛІТЫЧНЫ (рус. ЛИДЕР ПОЛИТИЧЕСКИЙ) — суб'ект палітыкі (асоба, група асоб, партыя, грамадская арганізацыя або нават клас) з высокім грамадскім аўтарытэтам, моцным уплывам, здольны акамуляваць і адэкватна выразіць у сваёй дзейнасці інтарэсы пэўных сацыяльных сіл.

МАСТАЦТВА ПАЛІТЫЧНАЕ (рус. ИСКУССТВО ПОЛИТИЧЕСКОЕ) — высокая ступень майстэрства ў палітычнай дзейнасці; уключае разнастайныя прыёмы, спосабы, сродкі палітычнай дзейнасці, здольнасць у рамках закона да манеўравання, пагадненняў, кампрамісаў.

ПАЛІТАЛОГІЯ (рус. ПОЛИТОЛОГИЯ) — галіна навуковых ведаў, якая вывучае палітыку, палітычныя адносіны, палітычную ўладу і палітычныя сістэмы. Галоўныя раздзелы П.: 1) тэорыя палітыкі, ці ўводзіны ў паліталогію; 2) тэорыя палітычных сістэм і іх элементаў: дзяржавы, партый, палітычных рэжымаў; 3) тэорыя міжнародных адносін; 4) тэорыя кіравання сацыяльна-палітычнымі працэсамі; 5) палітычная ідэалогія і гісторыя палітычных вучэнняў.

ПАЛІТЫК (рус. ПОЛИТИК) — актыўны ўдзельнік палітыкі, палітычнага жыцця; палітычны дзеяч, асоба, якая прафесіянальна займаецца пытаннямі палітыкі, знаток палітыкі.

ПАЛІТЫКА (рус. ПОЛИТИКА) — 1) дзейнасць ўлады, органаў, аб'яднанняў грамадзян і асобных людзей у сферы адносін паміж дзяржавамі, класамі, нацыямі, вялікімі групамі людзей, накіраваная на рэалізацыю, адстойванне сваіх інтарэсаў, нацэленая на заваяванне, выкарыстанне палітычнай ўлады; 2) удзел у справах дзяржавы, вызначэнне формаў, задач, зместу яе дзейнасці; 3) у гісторыі — віды, намеры, мэты і метады дзеянняў кіраўнікоў, іх набліжаных; праяўленне скрытнасці, ухілістасці, хітрасці, асцярожнасці; 4) у звычайным абыходку нярэдка характарыстыка вобразаў дзеянняў, накіраваных на дасягненне пэўных мэтаў у адносінах людзей паміж сабой; 5) сукупнасць пытанняў або падзей сучаснага дзяржаўнага або грамадскага жыцця.

ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ (рус. ПОЛИТИЧЕСКАЯ ЖИЗНЬ) — сфера грамадскіх адносін, якая ўключае пытанні ўлады і пад-

парадкавання, адносін да дзяржавы, яе функцый і органаў, узаемаадносіны паміж масамі і палітычнымі лідэрамі, паміж партыямі і грамадскімі арганізацыямі, а таксама паміж самімі палітычнымі лідэрамі.

ПАЛІТЫЧНАЯ БАРАЦЬБА (рус. ПОЛИТИЧЕСКАЯ БОРЬБА) — узаемадзеянне розных палітычных сіл паміж сабой у імя дасягнення пэўных палітычных мэтаў. У яе аснове ляжаць інтарэсы суб'ектаў палітычных адносін. Аб'ектам П. Б. з'яўляюцца першнаперш адносіны ўлады.

ПАЛІТЫЧНАЯ КУЛЬТУРА (рус. ПОЛИТИЧЕСКАЯ КУЛЬТУРА) — сістэма гістарычна складзеных, адносна ўстойлівых перакананняў, ацэнак, установак, пазіцый, мадэляў паводзін, а таксама інстытутаў і норм (як прадуктаў свядомай дзейнасці людзей), якія характэрызуюць спосаб існавання сацыяльнага суб'екта (індывіда, сацыяльнай групы грамадства) у сферы палітычных адносін.

ПАЛІТЫЧНАЯ СІСТЭМА (рус. ПОЛИТИЧЕСКАЯ СИСТЕМА) — інтэгрыраваная сукупнасць дзяржаўных і недзяржаўных сацыяльных інстытутаў, адносін і сувязей паміж імі, пры дапамозе чаго ажыццяўляецца кіраванне і ўпраўленне грамадскімі працэсамі ў інтарэсах пэўных сацыяльных груп і грамадства ў цэлым.

ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА (рус. ПОЛИТИЧЕСКАЯ СФЕРА) — вобласць грамадскага жыцця, якая ўключае ўсе палітычныя адносіны дадзенага грамадства.

ПАЛІТЫЧНАЯ ЎЛАДА (рус. ПОЛИТИЧЕСКАЯ ВЛАСТЬ) — форма сацыяльных адносін, здольная ўплываць на напрамкі дзейнасці і паводзіны людзей, сацыяльных груп, класаў пры дапамозе эканамічных і арганізацыйна-прававых механізмаў, аўтарытэту, традыцый, насілля.

ПАЛІТЫЧНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ (рус. ПОЛИТИЧЕСКИЕ ОРГАНИЗАЦИИ) — аб'яднанні людзей для дасягнення пастаўленых палітычных мэтаў. Характарызуюцца наяўнасцю выразных структур, падзелам функцый паміж падраздзяленнямі, сістэмным характарам дзейнасці. Асноўным тыпам П. А. з'яўляецца палітычная партыя.

ПАРТНЁРСТВА ПАЛІТЫЧНАЕ (рус. ПАРТНЕРСТВО ПОЛИТИЧЕСКОЕ) — від узаемаадносін паміж суб'ектамі палітычнага жыцця. П. П. прадугледжвае распрацоўку адзіных пазіцый па тых або іншых пытаннях, сумеснасць дзеянняў.



ПЛЮРАЛІЗМ ПАЛІТЫЧНЫ (рус. ПЛЮРАЛИЗМ ПОЛИТИЧЕСКИЙ) — прынцып арганізацыі і функцыяніравання палітычнага жыцця і палітычнай сістэмы, які выражае разнастайныя інтарэсы класаў, сацыяльных слаёў і груп, нацый, этнічных супольнасцей, рэгіёнаў, іншых суб'ектаў грамадскага жыцця і дапускае вольнае спаборніцтва, барацьбу палітычных партый, рухаў, арганізацый.

ПОГЛЯДЫ ПАЛІТЫЧНЫЯ (рус. ВЗГЛЯДЫ ПОЛИТИЧЕСКИЕ) — шырокі плюралістычны спектр меркаванняў, уяўленняў, ідэй, ацэнак палітыкі дзяржаў, дзеянняў розных палітычных сіл і рухаў. У П. П. выяўляюцца ўспрыманне палітычных з'яў і прадметныя адносіны людзей да палітыкі.

ПРАГНАЗІРАВАННЕ ПАЛІТЫЧНАЕ (рус. ПРОГНОЗИРОВАНИЕ ПОЛИТИЧЕСКОЕ) — 1) выпрацоўка палітычнага прагнозу, меркавання аб будучым палітычнага працэсу; 2) спецыяльнае навуковае даследванне перспектываў развіцця палітычнага жыцця, яго працэсаў, падзей, з'яў.

СТРАТЭГІЯ І ТАКТЫКА ПАЛІТЫЧНАЯ (рус. СТРАТЕГИЯ И ТАКТИКА ПОЛИТИЧЕСКИЕ) — тэорыя і практыка актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці, палітычным працэсе і палітычнай барацьбе. Стратэгія вызначае асноўны напрамак дзейнасці (барацьбы) на значным гістарычным этапе. Тактыка вызначае лінію палітычных паводзін дадзенага суб'екта, спосабы і формы яго дзейнасці ў канкрэтна-гістарычных умовах.

СУБ'ЕКТНАСЦЬ ПАЛІТЫЧНАЯ (рус. СУБЪЕКТНОСТЬ ПОЛИТИЧЕСКАЯ) — устойлівая гатоўнасць і здольнасць да свядомых, самастойных і рацыянальных палітычных дзеянняў.

УЗАЕМАДЗЕЯННЕ ПАЛІТЫЧНЫХ СІЛ (рус. ВЗАИМОДЕЙСТВИЕ ПОЛИТИЧЕСКИХ СИЛ) — уздзеянне розных палітычных сіл (суб'ектаў палітыкі) адзін на аднаго ў працэсе палітычнай дзейнасці, якое вызначаецца суадносінамі інтарэсаў суб'ектаў, іх палітычных мэтаў. Можа ахопліваць самы шырокі спектр формаў праяўлення ад канфрантацыі да кансэнсусу.

УЛАДА (рус. ВЛАСТЬ) — 1) здольнасць, права і магчымасць распараджацца кім-небудзь, чым-небудзь; вырашальна ўплываць на лёс, паводзіны, дзейнасць людзей пры дапамозе розных сродкаў (права, аўтарытэту, волі, прымусу і г. д.); 2) палітычнае панаванне над людзьмі; 3) сістэма дзяржаўных органаў; 4) асобы, органы, якія маюць адпаведныя дзяржаўныя, адміністратыўныя паўнамоцтвы.

УПЛЫЎ ПАЛІТЫЧНЫ (рус. ВЛИЯНИЕ ПОЛИТИЧЕСКОЕ) — уздзеянне, якое аказвае той ці іншы суб'ект палітычнага жыцця на грамадства ў цэлым, на іншых суб'ектаў. У. П. можа быць прамым або ўскосным, адкрытым або скрытым; з выкарыстаннем сродкаў насілля (нават ваенна-палітычных) або ненасільным; кароткачасовым або доўгачасовым. Ступень У. П. вызначаецца ўзроўнем палітычнай сталасці партый, рухаў; правільнасцю палітычнай стратэгіі і тактыкі; у канчатковым выніку здольнасцю партый, рухаў садзейнічаць грамадскаму прагрэсу.

## V. АСНОВЫ ЭКАНАМІЧНАЙ ТЭОРЫІ

АБАРОТНЫЯ ФОНДЫ (рус. ОБОРОТНЫЕ ФОНДЫ) — частка вытворчых фондаў (сыравіна, матэрыялы і г. д.), якія спажываюцца ў кожным вытворчым цыкле і змяняюць пры гэтым сваю натуральна-рэчавую форму.

АБСТРАКТНАЯ ПРАЦА (рус. АБСТРАКТНЫЙ ТРУД) — праца, якая незалежна ад яе канкрэтнай формы выступае як затрата рабочай сілы ўвогуле (энергіі чалавека).

АГРАПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС (рус. АГРОПРОМЫШЛЕННЫЙ КОМПЛЕКС) — сукупнасць гаспадарчых галін па вытворчасці, транспартыроўцы, перапрацоўцы і рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі.

АКЦЫЗ (рус. АКЦИЗ) — разнавіднасць ускоснага падатка (пераважна на тавары масавага попыту), уключаемая ў цану тавара або тарыф за паслугі.

АКЦЫЯ (рус. АКЦИЯ) — каштоўная папера, якая сведчыць аб удзеле яе ўладальніка ў капітале акцыянернага таварыства і дае права атрымліваць даход у форме дывідэнту.

АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА (рус. АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО) — форма арганізацыі буйнога прадпрыемства, капітал якога ствараецца шляхам продажу акцый і аблігацый.

АКЦЫЯНЕРНЫ КАПІТАЛ (рус. АКЦИОНЕРНЫЙ КАПИТАЛ) — сродкі акцыянернага таварыства, назапашаныя аб'яднаннем многіх індывідуальных капіталаў і прыцягненнем грашовых зберажэнняў укладчыкаў шляхам продажу акцый і аблігацый.

АМАРТЫЗАЦЫЯ (рус. АМОРТИЗАЦИЯ) — працэс перанясення кошту сродкаў працы (па меры іх зносу) на створаны з іх дапамогай прадукт.

АРЭНДА (рус. АРЕНДА) — часовае карыстанне ўласнасцю, маемасцю, якое ажыццяўляецца на дагаварных асновах паміж арэндадацелем і арэндатарам за пэўную плату.



АСІГНАВАННІ (рус. АССИГНОВАНИЯ) — грашовыя сродкі, вылучаныя для якой-небудзь мэты.

АСНОЎНЫЯ ВЫТВОРЧЫЯ ФОНДЫ (рус. ОСНОВНЫЕ ПРОИЗВОДСТВЕННЫЕ ФОНДЫ) — сукупнасць сродкаў вытворчасці (машыны, абсталяванне, будынкі, перадатачныя прыстасаванні), якія абслугоўваюць вытворчасць працяглы час і пераносяць сваю вартасць на зноў створаны прадукт па частках.

АЎКЦЫЁН (рус. АУКЦИОН) — публічны продаж, калі рэч набывае той, хто дае за яе найбольшую суму.

БАНК (рус. БАНК) — крэдытна-фінансавая ўстанова, якая канцэнтруе грашовыя сродкі, выдае грашовыя разлікі, наладжвае эмісію (выпуск) грошай, выдачу крэдытаў, выпуск розных каштоўных папер.

БАНКНОТЫ (рус. БАНКНОТЫ) — грашовыя знакі эмісійнага банка.

БЕСПРАЦОЎЕ (рус. БЕЗРАБОТИЦА) — сацыяльна-эканамічная з'ява, калі частка працаздольнага насельніцтва не знаходзіць сабе рабочага месца.

БІРЖА (рус. БИРЖА) — своеасаблівы рынак для заключэння розных здзелак — дагавораў па куплі-продажу тавараў. Падраздзяляюцца на таварныя, фондавыя біржы і біржы працы.

БЮДЖЭТ (рус. БЮДЖЕТ) — каштарыс прыходаў і расходаў дзяржавы, прадпрыемства ці прыватнай асобы па крыніцах паступлення і асноўных каналах расходавання сродкаў.

ВАЛАВЫ ГРАМАДСКІ ПРАДУКТ (рус. ВАЛОВОЙ ОБЩЕСТВЕННЫЙ ПРОДУКТ) — сукупнасць матэрыяльных даброт, створаных за год. Вызначаецца як сума валавой прадукцыі галін матэрыяльнай вытворчасці.

ВАЛЮТА (рус. ВАЛЮТА) — 1) грашовая адзінка дадзенай дзяржавы (нацыянальная валюта); 2) грошы і плацежныя сродкі, якія выкарыстоўваюцца ў міжнародных разліках (замежная валюта).

ВАЛЮТНЫ КУРС (рус. ВАЛЮТНЫЙ КУРС) — цана грашовай адзінкі адной дзяржавы, выражаная ў грашовых адзінках другіх дзяржаў.

ВАРТАСЦЬ ТАВАРА (рус. СТОИМОСТЬ ТОВАРА) — арэчаўленая ў тавары праца вытворцаў.

ВЫТВОРЧЫЯ АДНОСІНЫ (рус. ПРОИЗВОДСТВЕННЫЕ ОТНОШЕНИЯ) — адносіны людзей ў працэсе вытворчасці.

ГРАШОВАЕ АБАРАЧЭННЕ (рус. ДЕНЕЖНОЕ ОБРАЩЕНИЕ) — няспынны рух грошай, якія выконваюць функцыі сродкаў абарачэння і сродкаў плацяжу.

ГРОШЫ (рус. ДЕНЬГИ) — асобны тавар, які выконвае ролю ўсеагульнага эквівалента пры абмене тавараў.

ДЗЯРЖАЎНЫ ДОЎГ (рус. ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ДОЛГ) — часовая мабілізацыя дзяржавай дадатковых сродкаў для пакрыцця сваіх расходаў шляхам выпуску ўрадавых пазык.

ДЫВІДЭНД (рус. ДИВИДЕНД) — даход, які атрымліваюць уладальнікі акцый і які з'яўляецца часткай прыбылі акцыянернага таварыства.

ДЭВАЛЬВАЦЫЯ (рус. ДЕВАЛЬВАЦИЯ) — зніжэнне абменнага курсу (цаны) грашовай адзінкі (валюты) адной дзяржавы ў адносінах да грашовай адзінкі (валюты) іншай краіны.

ДЭФІЦЫТ (рус. ДЕФИЦИТ) — перавага расходаў над даходамі, плацяжоў над паступленнямі.

ДЭФЛЯЦЫЯ (рус. ДЕФЛЯЦИЯ) — забарона абароту часткі лішняй грашовай масы, выпушчанай у перыяд інфляцыі.

ЗАКОН ВАРТАСЦІ (рус. ЗАКОН СТОИМОСТИ) — эканамічны закон таварнай вытворчасці, паводле якога вартасць тавару вызначаецца затратамі грамадскай працы і тавары абменьваюцца на аснове грамадска-неабходных затрат працы.

ЗАКОН ГРАШОВАГА АБАРАЧЭННЯ (рус. ЗАКОН ДЕНЕЖНОГО ОБРАЩЕНИЯ) — эканамічны закон, які вызначае колькасць грошай, неабходных у кожны дадзены момант для забеспячэння таварнага абарачэння.

ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ ЗНЕШНЯЯ (рус. ЗАДОЛЖЕННОСТЬ ВНЕШНЯЯ) — агульны аб'ем фінансавых абавязкаў знешнім крэдыторам.

ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ (рус. ВНЕШНЯЯ ТОРГОВЛЯ) — гандаль дадзенай краіны з іншымі краінамі, які ажыццяўляецца шляхам вывазу (экспарту) і ўвозу (імпарту) тавараў.

ІНТЭНСІЎНАЕ РАЗВІЦЦЁ (рус. ИНТЕНСИВНОЕ РАЗВИТИЕ) — развіццё за кошт выкарыстання найноўшых прагрэсіўных тэхналагічных сродкаў вытворчасці.

ІНФЛЯЦЫЯ (рус. ИНФЛЯЦИЯ) — абясцэньванне грошай у выніку перавагі колькасці грашовых знакаў (адзінак), якія знаходзяцца ў абарачэнні, над сумай тавараў; з'яўленне масы грашовых знакаў, якія не забяспечаны таварамі.



ІНФРАСТРУКТУРА (рус. ИНФРАСТРУКТУРА) — комплекс галін гаспадаркі, якія абслугоўваюць вытворчасць (дарогі, склады, транспарт, сувязь і г. д.).

ІПАТЭКА (рус. ИПОТЕКА) — здача ў заклад зямлі, іншай нерухомай маёмасці з мэтай атрымання крэдытнай пазыкі, г. зн. іпатэчнага крэдыту, або крэдыту пад закладную.

МАРКЕТЫНГ (рус. МАРКЕТИНГ) — сістэма кіравання вытворчасцю і рэалізацыяй прадукцыі. Асноўныя функцыі М.: вывучэнне попыту, цэнаўтварэння, рэклама, стымуляванне збыту, планаванне таварнага асартыменту і інш.

МАТЭРЫЯЛАЁМКАСЦЬ ПРАДУКЦЫІ (рус. МАТЕРИАЛОЕМКОСТЬ ПРОДУКЦИИ) — паказчык выдаткавання матэрыялаў на выраб прадукцыі.

МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ ВЫДАТКІ (рус. МАТЕРИАЛЬНЫЕ ЗАТРАТЫ) — выдаткі сыравіны, матэрыялаў, энергіі і г. д., звязаныя з вытворчасцю тавараў.

МЕНАВАЯ ВАРТАСЦЬ (рус. МЕНОВАЯ СТОИМОСТЬ) — знешняе праяўленне вартасці тавару.

НАКАПЛЕННЕ (рус. НАКОПЛЕНИЕ) — выкарыстанне часткі нацыянальнага даходу на пашырэнне вытворчасці. Н. капітала — пераўтварэнне прыбавачнай вартасці ў капітал.

НАМІНАЛЬНАЯ ЗАРАБАТНАЯ ПЛАТА (рус. НОМИНАЛЬНАЯ ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА) — плата, якую атрымлівае работнік у грашовай форме.

НАТУРАЛЬНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ (рус. НАТУРАЛЬНОЕ ПРОИЗВОДСТВО) — вытворчасць для сябе, не звязаная з рынкам.

НАЦЫЯНАЛЬНАЕ БАГАЦЦЕ (СКАРБ) (рус. НАЦИОНАЛЬНОЕ БОГАТСТВО) — усе, што створана ў краіне за яе гісторыю; у грашовых адносінах — сукупнасць спажывецкіх каштоўнасцей, створаных грамадствам за ўвесь час яго вытворчай дзейнасці.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПРЫБЫТАК (рус. НАЦИОНАЛЬНЫЙ ДОХОД) — зноў створаная за год у сферы матэрыяльнай вытворчасці вартасць, якая ўключае неабходны і прыбавачны прадукт; частка сукупнага грамадскага прадукта за вылікам спажытых сродкаў вытворчасці. Н. П. — агульны паказчык эканамічнага развіцця краіны.

НЕАБХОДНЫ ПРАДУКТ (рус. НЕОБХОДИМЫЙ ПРОДУКТ) — тая частка СГПа, якая ідзе на задавальненне асабістых патрэбнасцей работнікаў матэрыяльнай вытворчасці.

НЯЗМЕННЫ КАПІТАЛ (рус. ПОСТОЯННЫЙ КАПИТАЛ) — капітал, які выступае ў выглядзе сродкаў вытворчасці, або выдаткоўваецца на іх набыццё.

ПАЗЫКІ ДЗЯРЖАЎНЫЯ (рус. ЗАЙМЫ ГОСУДАРСТВЕННЫЕ) — форма эканамічных адносін, пры якіх дзяржава атрымлівае або дае сродкі на аснове крэдыту.

ПАЛІТЭКАНОМІЯ (рус. ПОЛИТЭКОНОМИЯ) — навука аб законах вытворчасці, размеркавання, абмену і спажывання матэрыяльных каштоўнасцей.

ПАШЫРАНАЕ ЎЗНАЎЛЕННЕ (рус. РАСШИРЕННОЕ ВОСПРОИЗВОДСТВО) — няспыннае ўзнаўленне і пашырэнне працэсу вытворчасці.

ПЕРАМЕННЫ КАПІТАЛ (рус. ПЕРЕМЕННЫЙ КАПИТАЛ) — капітал, які выдаткоўваецца на куплю рабочай сілы.

ПРАДМЕТ ПРАЦЫ (рус. ПРЕДМЕТ ТРУДА) — тое, на што накіравана праца; матэрыял, з якога выраблены прадукт.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ПРАЦЫ (рус. ПРОИЗВОДИТЕЛЬНОСТЬ ТРУДА) — эфектыўнасць, выніковасць працы.

ПРАДУКЦЫЙНЫЯ СІЛЫ (рус. ПРОИЗВОДИТЕЛЬНЫЕ СИЛЫ) — людзі, занятыя ў вытворчасці, і сродкі вытворчасці.

ПРАЦАЁМКАСЦЬ ПРАДУКЦЫІ (рус. ТРУДОЕМКОСТЬ ПРОДУКЦИИ) — паказчык, які характэрызуе затраты працоўнага часу на вытворчасць прадукцыі або на выкананне пэўнай аперацыі.

ПРОСТАЕ ЎЗНАЎЛЕННЕ (рус. ПРОСТОЕ ВОСПРОИЗВОДСТВО) — узнаўленне працэсу вытворчасці ў нязменных маштабах.

ПРЫБАВАЧНАЯ ВАРТАСЦЬ (рус. ПРИБАВОЧНАЯ СТОИМОСТЬ) — частка вартасці тавараў, якая ствараецца неаплачанай працай рабочых і прысвойваецца прадпрымальнікам.

ПРЫБАВАЧНЫ ПРАДУКТ (рус. ПРИБАВОЧНЫЙ ПРОДУКТ) — частка СГП, якая забяспечвае патрэбы работнікаў сферы нематэрыяльнай вытворчасці і накаплення.

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ (рус. ПРИВАТИЗАЦИЯ) — перадача маёмасці ў прыватныя рукі.

РАБОЧАЯ СІЛА (рус. РАБОЧАЯ СИЛА) — сукупнасць фізічных і духоўных магчымасцей чалавека, якія ён выкарыстоўвае для вырабу матэрыяльных каштоўнасцей альбо іншых паслуг.



РАЗДЗЯРЖАЎЛЕННЕ (рус. РАЗГОСУДАРСТВЛЕНИЕ) — працэс ліквідацыі дзяржаўнай манаполіі на ўласнасць і перадача яе працоўным калектывам, акцыянерам, прыватнікам і г. д.

РЭАЛЬНАЯ ЗАРАБАТНАЯ ПЛАТА (рус. РЕАЛЬНАЯ ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА) — тое, што можна купіць за намінальную зарплату.

САБЕКОШТ (рус. СЕБЕСТОИМОСТЬ) — грашовае выражэнне выдаткаў прадпрыемства на вытворчасць і рэалізацыю прадукцыі.

СПАЖЫВЕЦКАЯ ВАРТАСЦЬ (рус. ПОТРЕБИТЕЛЬСКАЯ СТОИМОСТЬ) — карыснасць рэчы, яе здольнасць задавальняць людскія патрэбнасці.

СПОСАБ ВЫТВОРЧАСЦІ (рус. СПОСОБ ПРОИЗВОДСТВА) — сукупнасць прадукцыйных сіл і вытворчых адносін.

СРОДКІ ВЫТВОРЧАСЦІ (рус. СРЕДСТВА ПРОИЗВОДСТВА) — сукупнасць сродкаў працы і прадметаў працы.

СРОДКІ ПРАЦЫ (рус. СРЕДСТВА ТРУДА) — усё тое, з дапамогаю чаго людзі ўздзейнічаюць на прадметы працы (машыны, абсталяванне, будынкі, транспарт), з дапамогаю чаго вырабляюць прадукт.

СУКУПНЫ ГРАМАДСКІ ПРАДУКТ (рус. СОВОКУПНЫЙ ОБЩЕСТВЕННЫЙ ПРОДУКТ) — уся прадукцыя, якая створана грамадствам за пэўны час (звычайна за год). У грашовым выражэнні складаецца з вартасці матэрыяльных затрат у вытворчасці і зноў створанай вартасці, якая накіроўваецца на спажыванне насельніцтва і патрэбы ўзнаўлення.

ТАВАР (рус. ТОВАР) — прадукт працы, створаны для продажу ці абмену.

ТАВАРНА-ГРАШОВЫЯ АДНОСІНЫ (рус. ТОВАРНО-ДЕНЕЖНЫЕ ОТНОШЕНИЯ) — адносіны, заснаваныя на таварнай вытворчасці.

ТАВАРНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ (рус. ТОВАРНОЕ ПРОИЗВОДСТВО) — форма грамадскай вытворчасці, пры якой прадукты ідуць на рынак.

УЛАСНАСЦЬ (рус. СОБСТВЕННОСТЬ) — адносіны паміж людзьмі ў сувязі з прысваеннем матэрыяльных каштоўнасцей.

ФІНАНСЫ (рус. ФИНАНСЫ) — сукупнасць эканамічных адносін паміж людзьмі ў працэсе стварэння і выкарыстання грашовых сродкаў.

ФОНД ЗВАРОТУ (рус. ФОНД ВОЗМЕЩЕНИЯ) — частка СГП, прызначаная на кампенсаванне спажытых сродкаў вытворчасці.

ФОНД СПАЖЫВАННЯ (рус. ФОНД ПОТРЕБЛЕНИЯ) — частка СГП, якая ідзе на асабістыя патрэбнасці.

ФОНД НАКАПЛЕННЯ (рус. ФОНД НАКОПЛЕНИЯ) — частка СГП, якая ідзе на пашырэнне (накапленне) вытворчасці.

ФОНДААДДАЧА (рус. ФОНДООТДАЧА) — колькасць выраблепай прадукцыі на адзін рубель асноўных вытворчых фондаў.

ФОНДАЁМКАСЦЬ ПРАДУКЦЫІ (рус. ФОНДОЕМКОСТЬ ПРОДУКЦИИ) — зваротная велічыня фондааддачы. Паказвае, колькі выдаткоўваецца асноўных вытворчых фондаў на адзінку прадукцыі.

ЦАНА (рус. ЦЕНА) — грашовае выражэнне вартасці.

ЭКСТЭНСІЎНАЕ РАЗВІЦЦЁ (рус. ЭКСТЕНСИВНОЕ РАЗВИТИЕ) — развіццё за кошт нарошчвання магутнасцей, апрацоўваемых зямель, колькасці занятых работнікаў і г. д.

ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ ВЫТВОРЧАСЦІ (рус. ЭФФЕКТИВНОСТЬ ПРОИЗВОДСТВА) — ступень выгаднасці вытворчасці пры супастаўленні рэзультатаў і затрат.

## VI. ТЭОРЫЯ І ГІСТОРЫЯ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ

АБСТРАКЦЫЯНІЗМ (рус. АБСТРАКЦИОНИЗМ) — напрамак у мастацтве XX ст.; творчы метад абстрактнага (беспрадметнага, нефігуратыўнага) мастацтва.

АБСУРДУ МАСТАЦТВА (рус. АБСУРДА ИСКУССТВО) — адна з праяў авангардызму; у аснове светапогляду — тэзіс пра абсурднасць быцця, бяссэнсоўнасць існавання.

АВАНГАРДЫЗМ (рус. АВАНГАРДИЗМ) — плыні ў мастацтве XX ст., якія парываюць з рэалістычнай традыцыяй і бачаць сваё прызначэнне ў зломе ўсталяваных эстэтычных прынцыпаў, спосабаў пабудовы мастацкай формы.

АКАДЭМІЗМ (рус. АКАДЕМИЗМ) — 1) беражлівыя адносіны да традыцый у мастацтве; 2) накірунак у пластычных мастацтвах, які аформіўся ў еўрапейскай культуры з часу Балонскай акадэміі братоў Карачы (1585) і даў пачатак двум магутным стылям у мастацтве XVII—XVIII ст. ст. — класіцызму і барока.



АМПІР (рус. АМПИР) — стыль у архітэктуры і дэкаратыўным мастацтве першых трох дзесяцігоддзяў XIX ст., які завяршыў развіццё класіцызму.

АНТЫЧНАЯ КУЛЬТУРА (рус. АНТИЧНАЯ КУЛЬТУРА) — культура старажытнай Грэцыі і Рыма.

АРХЕТЫП (рус. АРХЕТИП) — 1) правобраз, ідэя; 2) найбольш старажытны, невядомы нам тэкст, да якога ўзыходзяць астатнія тэксты пісьмовага помніка.

БАРОКА (рус. БАРОККО) — асноўнае стылёвае адгалінаванне ў мастацтве Еўропы і Амерыкі к. XVI — сярэдзіне XVIII ст.ст., для якога характэрны кантраснасць, напружнасць, імкненне да велічнасці і пышнасці, да сумяшчэння рэальнасці і ілюзіі, дынамічнасць вобразаў, афектацыя.

БОДЗІ-АРТ (рус. БОДИ-АРТ) — плынь унутры канцэптуальнага мастацтва, якая ўзнікла на мяжы 60—70-х гг. XX ст. Так званыя творы гэтага мастацтва ствараюцца шляхам выкарыстання цела мастака — у выглядзе бязлікага, адчужанага, дэперсаналізаванага матэрыялу творчасці.

ГІПЕРРЭАЛІЗМ (рус. ГИПЕРРЕАЛИЗМ) — творчы накірунак, які праявіўся перш за ўсё ў жывапісе. Імітуе характэрныя ўласцівасці фатаграфіі: дакументальную дакладнасць, колер і інш.

ГОТЫКА (рус. ГОТИКА) — стыль у заходнееўрапейскім мастацтве XII—XV (XVI) ст.ст. Для Г. характэрны сімвалічна-алегарычны тып мыслення і ўмоўнасць мастацкай мовы, дынамічныя архітэктурныя рытмы, каляровыя вітражы, рухомасць скульптурных фігур. Сведчыў аб паступовым вызваленні мастацтва ад уплыву дагматаў, канонаў царквы і пранікненні свецкай культуры ў царкоўную.

ДАДАІЗМ (рус. ДАДАИЗМ) — мадэрнісцкая літаратурна-мастацкая плынь у 1916—1922 гг. Свой пратэст супраць I сусветнай вайны яго прыхільнікі выказвалі ў ірацыяналізме, нігілістычным антыэстэтызме, мастацкім хуліганстве.

ДЭКАДЭНЦТВА (рус. ДЕКАДЕНТСТВО)—агульнае найменне крызісных з'яў у духоўнай культуры к. XIX — пач. XX ст. ст. з выразнымі матывамі безнадзейнасці, індывідуалізму і г. д. Пастаяннымі тэмамі Д. былі матывы небыцця і смерці; смутку па духоўных вартасцях і ідэалах.

ВАРВАРСТВА (рус. ВАРВАРСТВО) — сярэдняя з трох эпох гісторыі чалавецтва; у пераносным сэнсе — крайняя жорсткасць. Варвары — у старажытных грэкаў і рымлян назва ўсіх плямёнаў і народаў, што гаварылі на незразумелых ім мовах, мелі не іх культуру. У іншасказальным сэнсе — грубыя, некультурныя людзі.

ІМІДЖ (рус. ИМИДЖ) — ствараемы чалавекам вобраз сваёй сутнасці; вобраз рэчаў або людзей, які фарміруецца (як правіла, мэтанакіравана) сродкамі масавай інфармацыі, рэкламай і інш.

ІМПРЭСІЯНІЗМ (рус. ИМПРЕССИОНИЗМ) — плынь у мастацтве XIX—пач. XX ст. ст., якая ўзнікла ў барацьбе з салонным акадэмізмам, умоўнасцямі класіцызму і рамантызму. Сцвярджае прыгажосць паўсядзённай сапраўднасці, простых, дэмакратычных матываў, дабіваецца жывой адпаведнасці адлюстравання, фіксуе свет у пастаяннай зменлівасці.

КАНСТРУКТЫВІЗМ (рус. КОНСТРУКТИВИЗМ) — 1) напрамак (плынь) у савецкай мастацкай культуры ў 20-х гг., які вылучаў на пярэдні план канструктыўна-тэхнічны аспект мастацкай творчасці; 2) стыль савецкай архітэктуры к. 20—сярэдз. 30-х гг., які характарызуецца графічнай выразнасцю кампазіцыі, адсутнасцю дэкора і інш.

КАНЦЭПТУАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА (рус. КОНЦЕПТУАЛЬНОЕ ИСКУССТВО) — адзін з накірункаў авангардызму. Разглядае мастацкі твор як спосаб дэманстрацыі паняццяў, што выкарыстоўваюцца ў навуковых дысцыплінах.

КЛАСІЦЫЗМ (рус. КЛАССИЦИЗМ) — стыль і напрамак у літаратуры і мастацтве XVII — пач. XIX ст.ст., характэрныя зваротам да антычнай спадчыны як да нормы і ідэалу. Засноўваўся на ідэях філасофскага рацыяналізму, імкнуўся да строгай арганізаванасці лагічных, яркіх і гарманічных вобразаў.

КУБІЗМ (рус. КУБИЗМ) — мадэрнісцкая плынь у выяўленчым мастацтве, якая зарадзілася ў першай чвэрці XX ст. у Францыі. К. дэфармаваў вобразы рэальнага свету, ставячы на першы план фармальныя эксперыменты — канструяванне аб'емнай формы на плоскасці, выяўленне простых устойлівых формаў (куб. і інш.), расчляненне складаных формаў на простыя.

КУЛЬТУРА (рус. КУЛЬТУРА) — пэўная ступень гістарычнага *развіцця грамадства і чалавека, выяўленая ў выніках матэрыяльнай і духоўнай дзейнасці людзей; ёсць выражэнне*



сэнсу, сутнасці і зместу чалавечага быцця, асобаснага самавыражэння.

ЛЭНД-АРТ (рус. ЛЭНД-АРТ) — від канцэптуальнага мастацтва, які выкарыстоўвае ў якасці матэрыялу прыродныя аб'екты, перш за ўсе зямлю.

МАДЭРН (рус. МОДЕРН) — стыль у еўрапейскім і амерыканскім мастацтве к. XIX — пач. XX ст.ст. Яго паслядоўнікі рабілі спробы сфарміраваць цэласны, неэклектычны мастацкі стыль у архітэктуры і дэкаратыўным мастацтве.

МАДЭРНІЗМ (рус. МОДЕРНИЗМ) — агульная назва напрамкаў мастацтва і літаратуры к. XIX — пач. XX ст.ст. (кубізм, дадаізм, сюррэалізм, футурызм, экспрэсіянізм, абстракцыянізм і інш.), для якіх характэрны адыход ад традыцый рэалізму.

МАНЬЯРЫЗМ (рус. МАНЬЕРИЗМ) — плынь у заходнееўрапейскім мастацтве XVI ст., якая адлюстроўвала крызіс гуманістычнай культуры Адраджэння. Творы маньярыстаў адрозніваліся ўскладнёнасцю вобразаў, манернай завостранасцю формы.

МАРГІНАЛЬНАСЦЬ (рус. МАРГИНАЛЬНОСТЬ) — «пагранічнасць» становішча чалавека паміж пэўнымі сацыяльнымі групамі, якая накладвае пэўны адбітак на яго псіхіку; «пагранічны» тып культуры.

«МАСАВАЯ КУЛЬТУРА» (рус. «МАССОВАЯ КУЛЬТУРА») — з'ява інфармацыйнага грамадства, якой уласціва супярэчнасць матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей. Па сутнасці — культура прымітыўная, неарыгінальная, неіндывідуалізаваная, антымастацкая, з арыентацыяй на маладасведчаныя слаі насельніцтва, на слабы эстэтычны густ; культура «салодкіх летуценняў», насілля, сексу.

МЕЦЭНАЦТВА (рус. МЕЦЕНАТСТВО) — інстытут апекуноў мастацтва.

МІФАЛОГІЯ (рус. МИФОЛОГИЯ) — навука пра міфы (даследаванне крыніц, сацыяльнай глебы, сэнсу). Міф — форма грамадскай свядомасці. Адлюстроўвае ў выглядзе вобразнага пераказу фантастычныя ўяўленні аб прыродзе, грамадстве, чалавеку.

МУЗЫ (рус. МУЗЫ) — *у грэчаскай міфалогіі багіні-апякункі навук, паэзіі і творчасці.*

НАТУРАЛІЗМ (рус. НАТУРАЛИЗМ) — 1) напрамак у мастацтве з характэрным імкненнем дакладна, аб'ектыўна і бясстрасна передаць рэальнасці жыцця; 2) супраціўны рэалізму мастацкі метад, паводле якога ўзнаўляюцца (падаюцца) знешне жыццепадобныя рэальнасці без іх ідэйнага асэнсавання, мастацкага абагульнення, крытычнай ацэнкі і адбору.

ОП-АРТ (рус. ОП-АРТ) — аптычнае мастацтва; неаавангардысцкая разнавіднасць абстрактнага мастацтва, так званага геаметрычнага абстракцыянізму. Эфект дасягаецца ілюзіяй перамяшчэння на плоскасці і ў прасторы простых геаметрычных фігур, ліній і колеру, якія шматразова паўтараюцца.

ПОП-АРТ (рус. ПОП-АРТ) — крайняя мадэрнісцкая мастацкая плынь, што ўзнікла ў 50-х гг. у ЗША і Вялікабрытаніі. Адмаўляецца ад звычайных метадаў жывапісу і скульптуры, ад лагічных і вобразных заканамернасцей. Скарыстоўвае выпадковае спалучэнне прадметаў быту, фатаграфій, рэкламы, друкаваных выданняў і інш.

ПЯТРОГЛІФ (рус. ПЕТРОГЛИФ) — старажытныя малюнкі на сценах пячораў, на камянёх, скалах, зробленыя фарбай, разьбой, рэльефам.

РАМАНТЫЗМ (рус. РОМАНТИЗМ) — ідэйны і мастацкі напрамак у духоўнай культуры к. XVIII — першай паловы XIX ст.ст., які выявіў расчараванне ў выніках буржуазных рэвалюцый. Для Р. характэрна супярэчнасць паміж ідэалам і сацыяльнай сапраўднасцю, імкненне да бязмежнай свабоды, прага ўдасканалення і абнаўлення, пафас асабістай і грамадзянскай незалежнасці.

РОКАКО (рус. РОКОКО) — напрамак у еўрапейскім мастацтве першай паловы XVIII ст., звязаны з крызісам абсалютызму. Для яго характэрны адыход ад жыцця ў свет фантазіі, тэатралізаванай гульні, міфалагічных і пастаральных сюжэтаў, эротыкі.

РЭНЕСАНС (рус. РЕНЕССАНС — ВОЗРОЖДЕНИЕ) — эпоха ў культурным і ідэйным развіцці краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Азнаменавала пераход ад сярэдневяковай культуры да культуры новага часу. Характэрныя яе рысы — антыфеадальныя ў сваей аснове: свецкі, антыклерыкальны характар, гуманістычны светапогляд, зварот да культурнай спадчыны антычнасці.



СІМВАЛІЗМ (рус. СИМВОЛИЗМ) — мастацкая плынь і філасофска-эстэтычная канцэпцыя XIX — пач. XX ст.ст. Жывой рэальнасці супрацьставіліся ўяўленні і летуценні, а ўніверсальным сродкам мастацкага ўвасаблення лічыўся сімвал.

СУБКУЛЬТУРА (рус. СУБКУЛЬТУРА) — культура пэўнай сацыяльнай групы (студэнцтва, падлеткаў і інш.).

СУПРЭМАТЫЗМ (рус. СУПРЕМАТИЗМ) — разнавіднасць геаметрычнага абстракцыянізму, для якой характэрна спалучэнне прасцейшых рознакаляровых і рознавялікіх геаметрычных фігур, утвараючых ураўнаважаныя асіметрычныя кампазіцыі.

СЮРРЭАЛІЗМ (рус. СЮРРЕАЛИЗМ) — мадэрнісцкі напрамак у мастацтве XX ст., які аб'явіў крыніцай мастацтва сферу падсвядомасці (інстынкты, сны, галюцынацыі), а яго метадам — парушэнне лагічных сувязей у адлюстраванні сапраўднасці, замененых суб'ектыўнымі асацыяцыямі.

ТАШЫЗМ (рус. ТАШИЗМ) — разнавіднасць абстрактнага экспрэсіянізму, для якой характэрна бясформеннае мастацтва, жывапіс плямамі, што не ўзнаўляе вобразаў рэальнасці, а толькі дэманструе актыўнасць мастака.

ТРАДЫЦЫЯ (рус. ТРАДИЦИЯ) — элементы сацыяльна-культурнай спадчыны, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне і захоўваюцца працяглы час.

ФАВІЗМ (рус. ФОВИЗМ) — напрамак у жывапісе пач. XX ст., у аснове якога было назіранне натуры. Разам з тым надавалася вялікае значэнне жывапісным прыёмам.

ФУТУРЫЗМ (рус. ФУТУРИЗМ) — авангардысцкі напрамак у еўрапейскім і рускім мастацтве 10—20-х г.г. XX ст. Абсалютызаваў знешнія прыметы тэхнічнай цывілізацыі, урбанізм. Культываваў захапленне сацыяльнымі катаклізмамі, адмаўленне маральных і культурных традыцый, з аднога боку, і патрабаваў дэмакратызацыі мастацтва, з другога.

ЭКСПРЭСІЯНІЗМ (рус. ЭКСПРЕССИОНИЗМ) — напрамак у літаратуры і мастацтве першай чвэрці XX ст., які аб'явіў адзінай рэальнасцю суб'ектыўны духоўны свет чалавека, а яго паказ — галоўнай мэтай мастацтва. Э. выразіў індывідуалістычны пратэст супраць жорсткасці капіталізму, пачуцця страху перад войнамі і г. д.

## VII. ЭСТЭТЫКА

АЛЕГОРЫЯ (рус. АЛЛЕГОРИЯ) — прынцып мастацкага асэнсавання сапраўднасці і арганізацыі матэрыялу ў мастацтве. Згодна з гэтым прынцыпам адцягненыя паняцці, ідэі, думкі выражаюцца ў канкрэтных наглядных вобразах, якія часта маюць традыцыйны змест у міфалогіі, класічным мастацтве, фальклоры, рэлігійных тэкстах.

АРХІТЭКТУРА (рус. АРХИТЕКТУРА) — 1) від мастацтва, мэта якога — узвядзенне будынкаў у адпаведнасці з патрэбнасцямі людзей (у т. л. эстэтычнымі); 2) сукупнасць характэрных прымет збудаванняў пэўнага гістарычнага перыяду.

АЦЭНКА ЭСТЭТЫЧНАЯ (рус. ОЦЕНКА ЭСТЕТИЧЕСКАЯ) — спосаб вызначэння эстэтычнай каштоўнасці якога-небудзь эстэтычнага аб'екта.

БАЛЕТ (рус. БАЛЕТ) — від сцэнічнага мастацтва, змест якога раскрываецца ў танцавальна-музычных вобразах.

ВОБРАЗ МАСТАЦКІ (рус. ОБРАЗ ХУДОЖЕСТВЕННЫЙ) — спецыфічная для мастацтва форма паказу сапраўднасці, перадачы думак і пачуццяў мастака.

ВЫМЫСЕЛ МАСТАЦКІ (рус. ВЫМЫСЕЛ ХУДОЖЕСТВЕННЫЙ) — спецыфічны акт мастацкай творчасці, які садзейнічае канструяванню дапушчальных і магчымых варыянтаў быцця, уяўленню таго, што можа і павінна быць.

ВЫЯЎЛЕНЧАСЦЬ, ВЫЯЎЛЕННЕ (ПАКАЗ, АДЛЮСТРАВАННЕ) (рус. ИЗОБРАЗИТЕЛЬНОСТЬ, ИЗОБРАЖЕНИЕ) — паказ сродкамі мастацтва знешняга аблічча рэальных з'яў.

ГАРМОНІЯ (рус. ГАРМОНИЯ) — філасофска-эстэтычная катэгорыя, якая азначае аптымальную адпаведнасць адрознага ў складзе цэлага і адпаведнае эстэтычным крытэрыям дасканаласці, прыгажосці.

ГІПЕРБАЛІЗАЦЫЯ (рус. ГИПЕРБОЛИЗАЦИЯ) — спосаб мастацкага абагульнення, пры якім мастацкая вобразнасць дасягаецца шляхам свядомага перабольшвання якой-небудзь якасці, уласцівасці, асаблівасцей прадмета, з'явы ці працэсу.

ГРАТЭСК (рус. ГРОТЕСК) — празмернае перабольшванне і завастрэнне асобных бакоў эстэтычнага прадмета, якое вядзе да разбурэння існуючых у сапраўднасці сувязей, да замены іх кантрастным злучэннем, здавалася б, неспалучальных якасцей і аб'ектаў.



ГРАФІКА (рус. ГРАФИКА) — від выяўленчага мастацтва, які ўключае малюнак і друкаваныя мастацкія творы (гравюра, літаграфія).

ГУСТ ЭСТЭТЫЧНЫ (рус. ВКУС ЭСТЕТИЧЕСКИЙ) — здольнасць чалавека дыферэнцыравана ўспрымаць і ацэньваць разнастайныя эстэтычныя аб'екты.

ДЗЕЙНАСЦЬ ЭСТЭТЫЧНАЯ (рус. ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ ЭСТЕТИЧЕСКАЯ) — спецыфічны від практычнай і духоўнай дзейнасці па законах прыгажосці (эстэтыка быту, эстэтыка паводзін, мастацтва і інш.).

ДРАМА (рус. ДРАМА) — 1) адзін з асноўных родаў мастацкай літаратуры, які ахоплівае творы, прызначаныя для сцэнічнага ўвасаблення; 2) разнавіднасць п'ес, у якіх канфлікт не набывае трагічнай развязкі, але дзеянне не мае і чыста камічнага характару.

ДЫЗАЙН (рус. ДИЗАЙН) — від праектнай мастацка-тэхнічнай дзейнасці па фарміраванню эстэтычнага прадметнага асяроддзя.

ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА (рус. ДЕКОРАТИВНО-ПРИКЛАДНОЕ ИСКУССТВО) — від мастацтва, які абслугоўвае бытавыя патрэбы чалавека і адначасова задавальняе яго эстэтычныя густы, нясе прыгажосць у жыццё.

ЖАНР (рус. ЖАНР) — падраздзяленне кожнага віду мастацтва, абумоўленае прадметам і сродкамі адлюстравання (пейзаж, анімалістыка, трагедыя, камедыя і інш.).

ЖЫВАПІС (рус. ЖИВОПИСЬ) — від выяўленчага мастацтва, палотны якога ствараюцца пры дапамозе фарбаў, што наносяцца на пэўную паверхню.

ЗМЕСТ І ФОРМА Ў МАСТАЦТВЕ (рус. СОДЕРЖАНИЕ И ФОРМА В ИСКУССТВЕ) — узаемасувязь характару эстэтычнага асэнсавання сапраўднасці мастаком (ідэя, тэма, сюжэт) і выяўленчых сродкаў (кампазіцыя, гук, колер і інш.).

ІДЭАЛ ЭСТЭТЫЧНЫ (рус. ИДЕАЛ ЭСТЕТИЧЕСКИЙ) — від эстэтычных адносін — узор патрэбнай і жаданай эстэтычнай каштоўнасці.

ІДЭЯ МАСТАЦКАЯ (рус. ИДЕЯ ХУДОЖЕСТВЕННАЯ) — увасобленая ў творы мастацтва эстэтычна абагульненая аўтарская думка, якая выяўляе пэўную канцэпцыю чалавека і супольнасці.

КАМЕДЫЯ (рус. КОМЕДИЯ) — драматургічны твор, у якім дзеянне мае камічны характар.

КАМІЧНАЕ (рус. КОМИЧЕСКОЕ) — адна з асноўных эстэтычных катэгорый, якая выяўляе супярэчнасці рэальнага і ідэальнага ў сапраўднасці праз сацыяльна афарбаваны смех.

КАМПАЗІЦЫЯ (рус. КОМПОЗИЦИЯ) — суадносіны частак мастацкага твора.

КАНОН (рус. КАНОН) — сістэма правілаў, нормаў, дамінуючая ў мастацтве пэўнага гістарычнага перыяду ці ў пэўным мастацкім напрамку. Сцвярджае і замацоўвае асноўныя структурныя заканамернасці канкрэтных відаў мастацтва.

КАТАРСІС (рус. КАТАРСИС) — тэрмін антычнай эстэтыкі. Абазначае стан эстэтычнага ўспрымання і асэнсавання мастацкага ўздзеяння.

КОЛЕР (рус. ЦВЕТ) — адзін з выяўленчых сродкаў мастацтва, заснаваны на прыродзе зрокавых адчуванняў. Садзейнічае паказу разнастайнасці прадметнага свету ва ўсім яго багацці колераў.

МАНУМЕНТАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА (рус. МОНУМЕНТАЛЬНОЕ ИСКУССТВО) — род выяўленчага мастацтва, які ўключае помнікі і манументы, скульптурнае, жывапіснае і мазаічнае ўпрыгожванне будынкаў, вітражы.

МАСТАЦКАСЦЬ (рус. ХУДОЖЕСТВЕННОСТЬ) — мера эстэтычнай вартасці мастацкага твора, ступені яго годнасці.

МАСТАЦТВА (рус. ИСКУССТВО) — вобразнае пазнанне сапраўднасці; творчае пераўтварэнне вакольнага свету і чалавека па законах прыгажосці.

МЕРА (рус. МЕРА) — 1) у эстэтыцы — катэгорыя, якая выражае пэўнасць, цэласнасць і адносную устойлівасць прадмета; межы, у якіх сувязі з іншымі прадметамі не мяняюць яго якасць; 2) у мастацтве — неабходнасць і дастатковасць пэўных колькасных характарыстык твора для ўзнікнення яго якасці-мастацкасці.

МЕТАФАРА (рус. МЕТАФОРА) — спосаб эстэтычнага ўспрымання і сродак вобразнага адлюстравання ў мастацтве. У аснове — перанос значэнняў, якасцей аднаго прадмета на другі пры ўсведамленні іх адрозненняў.



МІМЕСІС (рус. МИМЕСИС) — у антычнай эстэтыцы асноўны прынцып творчай мастакоўскай дзейнасці, сутнасць якога заключаецца ў перайманні законаў прыроды.

МОВА МАСТАЦТВА (рус. ЯЗЫК ИСКУССТВА) — сукупнасць гістарычна сфарміраваных, асобных у кожным відзе мастацтва матэрыяльных сродкаў і прыёмаў стварэння мастацкага вобраза, г. зн. выяўленча-выразных сродкаў.

МОДА (рус. МОДА) — частковыя змены знешніх формаў культуры, якія адбываюцца пад уплывам многіх сацыяльных фактараў (эканамічных, сацыяльна-псіхалагічных, эстэтычных і інш.). Гэтыя змены перыядычныя, паўтараюцца.

МУЗЫКА (рус. МУЗЫКА) — від мастацтва, у якім вобразы фарміруюцца з дапамогай гукаў.

НАПРАМАК У МАСТАЦТВЕ (рус. НАПРАВЛЕНИЕ В ИСКУССТВЕ) — гістарычна сфарміраваная агульнасць мастацкіх з'яў, характэрная для пэўных эпох і творчасці мастакоў, аб'яднаных адносным адзінствам ідэйна-эстэтычных арыентацый і прынцыпаў мастацкага ўзнаўлення сапраўднасці.

НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА (рус. НАРОДНОЕ ИСКУССТВО) — сінтэтычнае паводле характару мастацтва, першапачаткова звязанае з працоўнай дзейнасцю чалавека; з'яўляецца адначасова матэрыяльнай і духоўнай культурай.

НІЗМЕННАЕ (рус. НИЗМЕННОЕ) — эстэтычная катэгорыя, процілеглая ўзвышанаму. Характарызуе прадметы і з'явы, што маюць адмоўную грамадскую вартасць.

ПРЫГОЖАЕ (рус. ПРЕКРАСНОЕ) — катэгорыя, якая характарызуе з'явы, прадметы з пункту гледжання дасканаласці, вышэйшай эстэтычнай вартасці; гармонія ідэальнага і рэальнага.

СКУЛЬПТУРА (рус. СКУЛЬПТУРА) — від выяўленчага мастацтва, спецыфіка якога заключаецца ў аб'ёмным увасабленні мастацкай формы ў прасторы.

СТЫЛЬ У МАСТАЦТВЕ (рус. СТИЛЬ В ИСКУССТВЕ) — структурнае адзінства вобразнай сістэмы і прыёмаў мастацкага адлюстравання, якое нараджаецца практыкай развіцця архітэктуры, выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва.

СЮЖЭТ (рус. СЮЖЕТ) — дынамічны аспект мастацкага твора, спосаб наяўнасці ў ім фабулы.

ТВОР МАСТАЦКІ (рус. ПРОИЗВЕДЕНИЕ ХУДОЖЕСТВЕННОЕ) — прадукт мастацкай творчасці, у якім у пачуццёва-ма-

тэрыяльнай форме увасоблены замысел яго творцы і які адпавядае пэўным крытэрыям эстэтычнай каштоўнасці.

ТРАГЕДЫЯ (рус. ТРАГЕДИЯ) — разнавіднасць драматычнага твора, у якім дзеянне развіваецца на аснове трагічнага канфлікту.

ТРАГІЧНАЕ (рус. ТРАГИЧЕСКОЕ) — катэгорыя, якая выражае дыялектыку свабоды і неабходнасці, паказвае вострыя жыццёвыя супярэчнасці, сітуацыі і абставіны, у якіх адэальнае церпіць паражэнне.

ТЫПІЗАЦЫЯ (рус. ТИПИЗАЦИЯ) — спосаб мастацкага абагульнення сапраўднасці, выяўлення характэрнага і істотнага ў з'явах і прадметах.

ТЭАТР (рус. ТЕАТР) — 1) від мастацтва; 2) творчы калектыў, які рыхтуе і ставіць спектаклі; 3) асобны тып будынка, прызначаны для тэатральнага мастацтва.

ТЭМА (рус. ТЕМА) — вынік мастацкага асэнсавання жыццёвых з'яў, якія выяўляюць духоўныя пошукі мастака і грамадства.

УЗВЫШАНАЕ (рус. ВОЗВЫШЕННОЕ) — катэгорыя эстэтыкі, якая характарызуе эстэтычную каштоўнасць прадметаў і з'яў, што маюць вялікую значнасць для грамадства, але з прычыны сваёй каласальнай магутнасці і маштабаў не могуць быць адразу асвоены грамадствам, асобай і хаваюць у сабе вялікую патэнцыяльную сілу.

УМОЎНАСЦЬ (рус. УСЛОВНОСТЬ) — адна з сутнасных уласцівасцей мастацтва, якая падкрэслівае адрозненне мастацкіх твораў ад той рэальнасці, што падаецца ў іх.

ФАБУЛА (рус. ФАБУЛА) — шэраг асноўных падзей у творы мастацтва, яго «падзейнае» ядро.

ФАРМАЛІЗМ (рус. ФОРМАЛИЗМ) — эстэтычная пазіцыя, якая абсалютызуе ролю формы ў эстэтычным і мастацкім асваенні сапраўднасці, ставіць катэгорыю формы на першае месца ў сістэме эстэтычнага ведання.

ЦЫРК (рус. ЦИРК) — від мастацтва, спецыфіка якога заключаецца ў стварэнні мастацкіх вобразаў пры дапамозе рухаў, трукаў, акцёрскага майстэрства.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЭСТЭТЫКА (рус. ЭКОЛОГИЧЕСКАЯ ЭСТЕТИКА) — сучасныя тэорыі, якія разглядаюць асноўныя праблемы эстэтычнага з пункту гледжання дыялектычнай узаемасувязі чалавека і прыроды; эстэтычныя паводзіны чалавека ў адносінах да прыроды.



ЭПАС (рус. ЭПОС) — пераказ (аповяд) гістарычных падзей, у якім аўтарства адсутнічае або не з'яўляецца прынцыповым.

ЭСТЭТЫКА (рус. ЭСТЕТИКА) — навука аб эстэтычных адносінах чалавека да сапраўднасці, аб прыродзе і заканамернасцях эстэтычнага асваення свету, функцыянавання эстэтычнай культуры чалавека і грамадства.

ЭСТЭТЫЧНАЕ (рус. ЭСТЕТИЧЕСКОЕ) — зыходная катэгорыя эстэтыкі, якая выражае адносіны эстэтычнага аб'екта і эстэтычнага суб'екта; якасць, што праступае праз сукупнасць усіх якасцей прадмета, з'явы; мера суадносін меры чалавека і меры прадмета.

ЭСТЭТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ (рус. ЭСТЕТИЧЕСКОЕ ВОСПИТАНИЕ) — фарміраванне адносін чалавека да рэчаіснасці.

## VIII. ЭТЫКА

АЛЬТРУІЗМ (рус. АЛЬТРУИЗМ) — маральны прынцып, сутнасць якога ў бескарыслівым служэнні «блізкаму», гатоўнасці ахвяраваць сваімі інтарэсамі на карысць інтарэсаў іншых.

АСКЕТЫЗМ (рус. АСКЕТИЗМ) — маральны прынцып, паводле якога чалавек адмаўляецца ад асалоды жыцця, свядома пазбаўляецца прыемных пачуццяў дзеля дасягнення пэўнай сацыяльнай мэты ці маральнага самазахавання.

ВЕЛІКАДУШНАСЦЬ (рус. ВЕЛИКОДУШИЕ) — форма праяўлення чалавечнасці ў паўсядзённых узаемаадносінах людзей, калі гуманнасць выходзіць за рамкі агульнапрынятых нормаў або праяўляецца да таго, хто яе не зусім заслугоўвае.

ВЕРНАСЦЬ (рус. ВЕРНОСТЬ) — маральная рыса, якая азначае нязменную прыхільнасць справе, абавязковае выкананне абавязкаў; пастаянства ў адносінах да іншых людзей.

ВЕТЛІВАСЦЬ (рус. ВЕЖЛИВОСТЬ) — маральная рыса, паводле якой павага да людзей — норма паводзін, звыклы спосаб адносін да іх.

ВІНА (рус. ВИНА) — стан (становішча), у якім аказваецца чалавек, парушыўшы маральныя ці прававыя нормы.

ВЫСАКАМЕР'Е (рус. ВЫСОКОМЕРИЕ) — адмоўная маральная рыса, што характарызуе пагардлівыя, фанабэрыстыя адносіны да людзей.

ГЕДАНІЗМ (рус. ГЕДОНИЗМ) — напрамак у этыцы, паводле якога асноўнымі матывамі чалавечых паводзін лічацца асалода і задавальненне сваіх патрэбнасцей, пачуццяў.

ГОДНАСЦЬ (рус. ДОСТОИНСТВО)—катэгорыя этыкі, якая адлюстроўвае своеасаблівыя маральныя адносіны чалавека да самога сябе і адносіны да яго з боку грамадства, у якім прызнаецца вартасць асобы.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ (рус. ДОБРОДЕТЕЛЬ) — паняцце маральнай свядомасці, якое з'яўляецца абагульненай характарыстыкай станоўчых устойлівых маральных якасцей асобы.

ДАБРО (рус. ДОБРО) — адно з найбольш агульных паняццяў маральнай свядомасці, якое разам са сваёй супрацьлеглацю—злом—з'яўляецца найбольш абагульненай формай размежавання маральнага і немаральнага.

ЗАЙЗДРАСЦЬ (рус. ЗАВИСТЬ) — непрыязна-варожае пачуццё да поспехаў, папулярнасці, маральнай перавагі ці перажнага становішча іншай асобы.

ЗЛО (рус. ЗЛО) — катэгорыя этыкі, супрацьлеглая дабру; паняцце маральнай свядомасці, якое з'яўляецца найбольш агульным выяўленнем таго, што пярэчыць маралі, заслугоўвае пакарання.

ІДЭАЛ МАРАЛЬНЫ (рус. ИДЕАЛ НРАВСТВЕННЫЙ) — паняцце маральнай свядомасці, у якім маральныя патрабаванні да людзей выяўляюцца ў вобразе маральна дасканалай асобы, чалавека, што ўвасобіў усе найбольш высокія якасці.

КАХАННЕ (рус. ЛЮБОВЬ) — такія людскія адносіны, калі адзін чалавек прымае другога як блізкага, роднаснага і пэўным чынам атаясамлівае сябе з ім.

КАШТОЎНАСЦЬ (ВАРТАСЦЬ) МАРАЛЬНАЯ (рус. ЦЕННОСТЬ МОРАЛЬНАЯ) — форма праяўлення маральных адносін грамадства. Пад К. разумеюць: 1) маральнае значэнне, годнасць асобы (групы асоб, калектыву) і яе ўчынкаў; 2) маральныя нормы, прынцыпы, ідэалы, паняцці дабра і зла, справядлівасці, шчасця — усяго, што ўключаецца ў сферу маральнай свядомасці.

КОДЭКС МАРАЛЬНЫ (рус. КОДЕКС МОРАЛЬНЫЙ) — звод маральных нормаў, якія трэба выконваць.



КРЫВАДУШНАСЦЬ (рус. ЛИЦЕМЕРИЕ) — адмоўная маральная рыса, якая праяўляецца тады, калі амаральным учынкам свядома надаецца маральны сэнс, узвышаныя матывы і чалавекалюбівыя мэты.

МАЛАДУШНАСЦЬ (рус. МАЛОДУШИЕ) — адмоўная маральная рыса, якая характарызуе слабасць волі асобы; выяўляецца ў няздольнасці чалавека адстаяць і ажыццявіць маральныя прынцыпы, у якія ён верыць.

МАРАЛЬ (рус. МОРАЛЬ) — прадмет вывучэння этыкі; форма грамадскай свядомасці, грамадскі інстытут, які выконвае функцыю рэгулявання паводзін чалавека.

МУЖНАСЦЬ (рус. МУЖЕСТВО) — маральная рыса, што характарызуе паводзіны і маральнае аблічча чалавека, якому ўласцівыя смеласць, стойкасць, вытрымка, самаадданасць, пачуццё асабістай годнасці. Выяўляецца ў здольнасці чалавека дзейнічаць рашуча і найбольш мэтазгодна ў небяспечных і складаных абставінах.

НІГІЛІЗМ МАРАЛЬНЫ (рус. НИГИЛИЗМ МОРАЛЬНЫЙ) — адмаўленне агульнапрынятых каштоўнасцей — ідэалаў, маральных нормаў, культуры, формаў грамадскага жыцця.

ПАТРАБАВАЛЬНАСЦЬ (рус. ТРЕБОВАТЕЛЬНОСТЬ) — прад'яўленне высокіх маральных патрабаванняў да чалавека і прызнанне яго адказнасці за іх выкананне.

ПРАЎДЗІВАСЦЬ (рус. ПРАВДИВОСТЬ) — маральная рыса, што характарызуе чалавека, які зрабіў для сябе правілам гаварыць ад імя іншых і самога сябе толькі праўду.

ПРАЦАВІТАСЦЬ (рус. ТРУДОЛЮБИЕ) — маральная рыса, якая характэрызуе суб'ектыўную схільнасць асобы да сваёй працоўнай дзейнасці.

РАСКАЯННЕ (рус. РАСКАЯНИЕ) — прызнанне асабістай віны і асуджэнне сваіх учынкаў, паводзін; выяўляецца ў публічным прызнанні сваёй вінаватасці і гатоўнасці быць пакараным, калі даводзіцца шкадаваць аб сваіх дзеяннях.

РЭПУТАЦЫЯ (рус. РЕПУТАЦИЯ) — дастойнае павагі маральнае аблічча чалавека (калектыву), заснаванае на яго паводзінах; выяўляецца ў прызнанні заслуг, аўтарытэту.

САМААДДАНАСЦЬ (рус. САМООТВЕРЖЕННОСТЬ) — станоўчая маральная рыса чалавека, гатовага ахвяраваць сваімі

інтарэсамі і нават жыццем дзеля інтарэсаў іншых людзей, у імя дасягнення агульнай мэты і дарагіх ім ідэалаў.

СВАБОДА МАРАЛЬНАЯ (рус. СВОБОДА НРАВСТВЕННАЯ) — катэгорыя этыкі, якая ахоплівае праблемы магчымасці і здольнасці чалавека быць самастойнай, самадзейнай і творчай асобай, выражаць у маральнай дзейнасці сваю ўласную, чалавечую сутнасць.

СЦІПЛАСЦЬ (рус. СКРОМНОСТЬ) — маральная рыса чалавека, які дабраахвотна падпарадкоўвае сябе патрабаванням грамадскай дысцыпліны, абмяжоўвае свае патрабаванні, крытычна адносіцца да ўласных заслуг і недахопаў.

СОРАМ (рус. СТЫД) — праяўленне маральнай самасвядомасці асобы; маральнае пачуццё, у якім чалавек выражае ацэнку (асуджэнне) сваіх паводзін, матываў і маральных якасцей.

СПАЧУВАННЕ (рус. СОЧУВСТВИЕ) — гуманныя адносіны да чалавека, заснаваныя на прызнанні законнасці яго патрэбнасцей і інтарэсаў; выяўляецца ў гатоўнасці маральна падтрымаць, садзейнічаць дасягненню мэты, памкненняў.

СПРАВЯДЛІВАСЦЬ (рус. СПРАВЕДЛИВОСТЬ) — паняцце маральнай свядомасці; адпаведнасць чалавечых адносін, дзеянняў патрабаванням маралі і права.

СУМЛЕННАСЦЬ (рус. ЧЕСТНОСТЬ) — маральная рыса, якая ўключае праўдзівасць, прынцыповасць, суб'ектыўную перакананасць у правільнасці рэалізуемай справы, прызнанне і захоўванне правоў іншых людзей на тое, што ім законна належыць.

СУМЛЕННЕ (рус. СОВЕСТЬ) — катэгорыя этыкі, якая характарызуе здольнасць асобы ажыццяўляць маральны самакантроль, самастойна фармуляваць для сябе маральныя абавязкі, патрабаваць ад сябе іх выканання.

СЭНС ЖЫЦЦЯ (рус. СМЫСЛ ЖИЗНИ) — рэгулятыўнае паняцце, якое апраўдвае і вытлумачвае ўласцівыя любой развітай сістэме поглядаў маральныя нормы.

УТЫЛІТАРЫЗМ (рус. УТИЛИТАРИЗМ) — прынцып паводзін, паводле якога галоўнае — атрымаць маральную карысць, выгаду, перавагу.



УЧЫНАК (рус. ПОСТУПОК) — фрагмент маральнай дзейнасці, якая расцэньваецца з пункту гледжання адзінства матываў і выніку, мэты і сродкаў.

ЦЫНІЗМ (рус. ЦИНИЗМ) — маральная рыса, якая характарызуе пагардлівыя адносіны да культуры грамадства, яго духоўных і маральных каштоўнасцей.

ЦЯРПІМАСЦЬ (рус. ТЕРПИМОСТЬ) — маральная рыса, якая характарызуе адносіны да інтарэсаў, перакананняў, вераванняў, прывычак у паводзінах іншых людзей. Выяўляецца ў імкненні дасягнуць узаемнага разумення і ўзгаднення розных інтарэсаў і пунктаў погляду.

ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ (рус. ЧЕЛОВЕЧНОСТЬ) — маральная якасць, заснаваная на прынцыпе гуманізму; уключае дабразычлівасць, павагу да людзей, спачуванне і інш.; прадугледжвае сціпласць, сумленнасць, шчырасць.

ЧУЛАСЦЬ (рус. ЧУТКОСТЬ) — маральная рыса, якая праяўляецца ў адносінах паміж людзьмі — у клопатах пра іншага, уважлівых адносінах да праблем, інтарэсаў чалавека, у разуменні матываў яго паводзін, у ветлівых адносінах да ўсіх.

ШЧАСЦЕ (рус. СЧАСТЬЕ) — паняцце маральнай свядомасці — стан чалавека, задаволенага ўмовамі, якія найлепшым чынам садзейнічаюць поўнаму асэнсаванню жыцця, здзяйсненню задум і намераў.

ШЧЫРАСЦЬ (рус. ИСКРЕННОСТЬ) — маральная рыса чалавека, упэўненага ў правільнасці сваіх дзеянняў, гатовага падзяліцца думкамі і намерамі.

ЭГАІЗМ (рус. ЭГОИЗМ) — найбольш выразнае праяўленне індывідуалізму, калі ўласныя інтарэсы ставяцца вышэй, чым інтарэсы калектыву, грамадства.

ЭТЫКА (рус. ЭТИКА) — філасофская навука, аб'ектам вывучэння якой з'яўляецца мараль.

ЭТЫКЕТ (рус. ЭТИКЕТ) — устаноўлены парадак паводзін, формы абыходжання ў пэўным асяроддзі, грамадстве.

## IX. УВОДЗІНЫ Ў РЭЛІГІЯЗНАЎСТВА

АЎТАКЕФАЛІЯ (рус. АВТОКЕФАЛИЯ) — незалежнасць, самастойнасць праваслаўных цэркваў у асобных краінах (напр., украінская А. царква).

ДАГМАТЫКА (рус. ДОГМАТИКА) — сукупнасць рэлігійных дагматаў, г. зн. асноўных палажэнняў рэлігіі, якія складаюць яе змест. У кожнай рэлігіі дагматам надаецца звышнатуральнае паходжанне, яны лічацца абсалютнай ісцінай і з'яўляюцца прадметам веры.

ЗВЫШНАТУРАЛЬНАЕ (рус. СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ) — з пункту гледжання рэлігіі — тыя сілы, якія існуюць у свеце, але не падпарадкоўваюцца аб'ектыўным законам прыроды і маюць «цудатворную» крыніцу.

КАНФЕСІЯ (рус. КОНФЕССИЯ) — тое самае, што накірунак у рэлігіі, а таксама належнасць да яго вернікаў (напр., каталіцкая К.).

КАТЭХІЗІС (рус. КАТЕХИЗИС) — кніга, якая змяшчае кароткі нарыс хрысціянскага веравызнання.

КУЛЬТ РЭЛІГІЙНЫ (рус. КУЛЬТ РЕЛИГИОЗНЫЙ) — рэлігійныя дзеянні, якія непасрэдна выцякаюць з веры ў звышнатуральныя сілы (напр., магія, малітва).

МАНАТЭІЗМ (рус. МОНОТЕИЗМ) — агульная назва рэлігій, заснаваная на веры ў адзінства бога (напр., іўдаізм, іслам).

МІСІЯНЕР (рус. МИССИОНЕР) — чалавек, які прапагандуе, распаўсюджвае рэлігію.

МІСТЫКА (рус. МИСТИКА) — 1) у шырокім сэнсе — прызнанне звышнатуральнай сутнасці з'яў прыроды, грамадства і чалавечага жыцця (лёсу); 2) у больш вузкім сэнсе — вера ў магчымасці беспасрэдных стасункаў чалавека са звышнатуральнымі сіламі.

ПОЛІТЭІЗМ (рус. ПОЛИТЕИЗМ) — агульная назва рэлігій, заснаваных на веры ў некалькіх багоў (напр., рэлігіі старажытнай Грэцыі і Рыма, і інш.).

РЭЛІГІЙНЫ ПАНТЭОН (рус. РЕЛИГИОЗНЫЙ ПАНТЕОН) — у політэістычных рэлігіях сукупнасць уяўленняў пра багоў, анёлаў і іх іерархіі.

РЭЛІГІЯ (рус. РЕЛИГИЯ) — форма грамадскай свядомасці, заснаваная на веры ў звышнатуральныя сілы; фантастычнае адлюстраванне тых знешніх сіл, якія пануюць над чалавекам у яго штодзённым жыцці; адлюстраванне, у якім зямныя сілы набываюць форму незямных.



СВАБОДА СУМЛЕННЯ (рус. СВОБОДА СОВЕСТИ) — адзін з агульнадэмакратычных прынцыпаў, які гарантуе чалавеку права мець уласны светапогляд, у тым ліку рэлігійны, атэістычны.

СЕКТА (рус. СЕКТА) — побач з царквой адзін з тыпаў рэлігійных арганізацый; група вернікаў, якая адрозніваецца поўнай арганізацыйнай незалежнасцю, звычайна асабістым членствам, пачуццём «выбранасці» (напр., хлысты, пяцідзесятнікі).

ТЭАДЫЦЭЯ (рус. ТЕОДИЦЕЯ) — богаапраўданне; імкненне даказаць існаванне Бога шляхам пазбаўлення супярэчлівасці паміж «добрым» Богам-стваральнікам і «благім» светастварэннем.

ТЭАЛОГІЯ (рус. ТЕОЛОГИЯ) — багаслоўе; сістэма рэлігійнага абгрунтавання дагматаў веры.

ТЭЛЕАЛОГІЯ (рус. ТЕЛЕОЛОГИЯ) — адна з выснаў рэлігійнага светапогляду, якая зыходзіць з таго, што ў свеце існуе агульная мэтазгоднасць, якая з'яўляецца доказам прысутнасці ў ім Бога-стваральніка.

ЦАРКВА (рус. ЦЕРКОВЬ) — 1) адзін (побач з сектай) з тыпаў рэлігійных арганізацый. У адрозненне ад секты аб'ядноўвае вернікаў на вялікай тэрыторыі (у межах краіны, ці некалькіх краін), мае органы кіравання (напр., Руская праваслаўная царква, Рымска-каталіцкая царква і г. д.); 2) агульная назва храма (дома малітвы) у хрысціянскіх канфесіях.

ЭСХАТАЛОГІЯ (рус. ЭСХАТОЛОГИЯ) — 1) рэлігійнае вучэнне (г. ч. у хрысціянстве) аб непазбежнасці т. зв. «канца свету»; 2) прадчуванне, чаканне «канца свету» як элемент рэлігійнай псіхалогіі.

# Кароткі тлумачальны слоўнік філасофскіх сацыяльных і культуралагічных тэрмінаў

**Складальнікі:**

Бяспамятных Мікалай Нічыпаравіч
Бародзіч Аляксандр Аляксандравіч
Гусакоўская Ларыса Анатольеўна
Змітровіч Ігар Алегавіч
Марціросаў Гурген Амірханавіч
Пісараў Уладзімір Кузьміч
Піульскі Яўген Уладзіміравіч
Смаль Дзмітрый Якаўлевіч

**Рэдактары:**

У. П. Амелька
Т. І. Тамашэвіч



Падпісана да друку 27.10.92 г. Фармат паперы 60х84 1/16.
Папера для глыбокага друку.
Высокі друк. Умоўн. друк. арк. 3,02.
Тыраж 1000. Заказ 3807.
Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я. Купалы.

---

Гродзенская абласная ўзбуйнёная друкарня.
230003, г. Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.